№ 11 (705) 23 сакавіка 2011

www.nn.by

незалежная газета

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



## Міхалевіч знайшоўся

Старонка 8



## Як інжынер з Мінска перажыў японскі землятрус

Старонка 5



## Кадафі: расплата за злачынствы

Старонка 7

### Тэндэнцыі

## Чорны спіс Еўрасаюза: новыя неўязныя

Спіс беларускіх чыноўнікаў, якім забаронены ўезд на тэрыторыю ЕС, папоўніўся 19 прозвішчамі. Цяпер у ім 175 чалавек. Дадаліся суддзі і пракуроры, якія ўдзельнічалі ў працэсах над пратэстоўцамі 19 снежня, рэктары ВНУ, адказныя за выключэнні студэнтаў па палітычных матывах, ідэолагі. Сярод іх – суддзя Вольга Комар, першы намеснік галоўнага рэдактара газеты «Советская Белоруссия» Анатоль Лябедзік, рэктар БДУІР Міхаіл Батура і іншыя рэктары, якія выключалі студэнтаў за палітыку: Генадзь Падгайскі – дырэктар Мінскага дзяржаўнага політэхнічнага каледжа, Пятро Кухарчык – рэктар Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта, Мечыслаў Часноўскі – рэктар Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Пушкіна, Тамара Алпеева – рэктар Міжнароднага гуманітарна-эканамічнага інстытута.. Рада міністраў замежных справаў краін ЕС пастанавіла пашырыць спіс «у сувязі з пагаршэннем у Беларусі сітуацыі з правамі чалавека». Міністры заклікалі да неадкладнага вызвалення палітвязняў.

### У НУМАРЫ



«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер.
На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**



PHOTO BYMEDIA.NET

# Дзень Волі

25 сакавіка 1918 года была абвешчаная незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Сцэнары святкавання – на **старонцы 2.**

# Шэры курс даляра — 3600 рублёў. А рэальны — 3270?

На месяц вымерла валютная біржа, а еўра працягвае павольны рост.

Афіцыйны курс даляра, які «завіс» 17 сакавіка на ўзроўні 3020 беларускіх рублёў, можа не змяніцца да 15 красавіка. Рэч у тым, што, згодна з новымі правіламі, банкі павінны рэзерваваць валюту за месяц да правядзення таргоў. Раней яны маглі атрымаць даляры літаральна на наступны дзень. Такім чынам, усе аперацыі адтэрмінаваныя на месяц. Гэтая інфармацыя выклікала чарговую хвалю валютнай панікі сярод насельніцтва. Эканаміст Сяргей Чалы назваў сітуацыю поўным паралічам усіх сегментаў валютнага рынку: «Біржавы рынак мёртвы».

**Што папярэднічала дэвальвацыі-2009?**

Курс даляра не змяняўся з 13 снежня 2008 да 1 студзеня 2009 года. А пасля скочыў з 2200 да 2650 рублёў.

**BelSwissBank спыніў валютныя аперацыі па пластыкавых картках**

Цяпер усе аперацыі будуць выконвацца толькі ў беларускіх рублях. Смс-паведамленні з такой інфармацыяй атрымалі тыя, хто карыстаюцца паслугамі банку.

**Нацбанк спыніў продаж валюты банкам для абменных пунктаў**

Пра гэта паведаміў прэс-сакратар Нацбанка Анатоль Драздоў.

Ад 15 сакавіка банкі не маглі купляць валюту на біржы – замаўляць яе цяпер трэба за месяц. Затое яны маглі купляць валюту непасрэдна ў Нацбанку. А 22 сакавіка і гэтую магчымасць адмянілі.

«Нацбанк спрабаваў гасіць пажар, але сродкаў хапіла на тыдзень. І, мабыць, пажар так і не пагасілі», — адзначае эканаміст Сяргей Чалы.

Выходзячы з наяўнай сітуацыі, эксперт прагназуе з'яўленне «валютчыкаў, множнасці курсаў, што дэ-факта ўжо ёсць, і неграшовых форм разлікаў».

Эканаміст лічыць сітуацыю на валютным рынку крытычнай. «Калі не вырашыцца пытанне з расійскім дзяржкрэдытам на 1 мільярд даляраў і 2 мільярды з фонду ЕўрАзЭС, цяжка ўявіць, што нас чакае», — дадаў Чалы.

**БелаПАН**

**Працяг на старонцы 4.**

# Байкот уладаў і выбараў

Заклік Казуліна і палітыкаў з кола Саннікава.

Былы кіраўнік Беларусі Станіслаў Шушкевіч, экс-кандыдат у прэзідэнты Аляксандр Казулін, а таксама Віктар Івашкевіч, Яўген Афнагель і Павел Марыніч заклікаюць грамадства да тактыкі актыўнага байкоту.

«На апошніх выбарах большасць насельніцтва прагаласавала супраць дыктатара», — мяркуюць яны. Палітыкі грунтуюцца на лічбах з тых шасці ўчасткаў Мінска, дзе было рэальнае назіранне і галасы публічна лічылі (участкі 1, 6, 8, 9, 27, 49). На іх у сярэднім дэмакратычныя кандыдаты набралі разам 53% галасоў, Лукашэнка — 39%, супраць усіх прагаласавалі 8%.

«Не можа быць дыялогу з рэжымам, які захапіў закладнікаў і стаў на шлях дзяржаўнага тэрарызму, — разка заяўляюць яны. — Вымусіць дыктатара вызваліць палітвязняў могуць толькі моцныя і рашучыя дзеянні».

Казулін і кампанія думаюць, што «такім дзеяннем можа стаць масавае непадпарадкаванне супрацьстаянне «Байкот дыктатуры» — кампанія, заснаваная на непрызнанні ўлады, адмове ад супрацоўніцтва з ёй і непадпарадкаванні рэжыму».

Аўтары звароту мяркуюць: «Беларусы яшчэ ніколі не ненавідзелі дыктатуру так моцна!»

**Працяг на старонцы 3.**

# Замест мітынгу на Дзень Волі — ускладанне кветак

**25 Сакавіка пасля працы людзі збяруцца каля помніка Янку Купалу.**

Перад гэтым Мінгарвыканкам адмовіў заяўнікам у шэсці ад плошчы Якуба Коласа да сквера Янкі Купалы. Быў прапанаваны мітынг без шэсця на Бангалор. У выпадку непадпарадкавання абяцалася прымяненне сілы і крымінальная адказнасць.

У выніку прадстаўнікі Партыі БНФ, Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, кампаніі «Гавары праўду» і руху «Разам» вырашылі кардынальна змяніць фармат акцыі. Яны будуць заклікаць людзей пасля працы прыйсці ў сквер Янкі Купалы і ўскласці кветкі да помніка паэту. Ніякага мітынгу не будзе.

Не згодныя з такім рашэннем прадстаўнікі Маладога фронту. Мікола Дземідзенка сказаў, што яны не мяняюць сваіх планаў. І будуць збіраць сваіх людзей а 18-ій на Якуба Коласа.

**Зміцер Панкавец**



**Дзень Волі пройдзе пад лозунгам «Свабоду палітвязням». 22 сакавіка распачаўся суд над Змітром Дашкевічам (на фота), Эдуардам Лобавым і Мікітам Ліхавідам.**

# Камітэт добрых спраў

**50 000 еўра ў год прапанавала КДБ кіраўніку грамадскай арганізацыі, якая праходзіць рэгістрацыю ў Мінюсце.**



Кіраўнік Міжнароднага культурна-асветніцкага грамадскага аб'яднання «Цэнтр развіцця валанцёрства» Мікалай Квантaліяні паскардзіўся, што КДБ схіляе яго да супрацоўніцтва.

Дакументы на рэгістрацыю цэнтра былі пададзеныя 22 лютага.

5 сакавіка Квантaліяні дадому патэлефанаваў чалавек, які прадставіўся Віталём Мікалаевічам і пакінуў нумар свайго мабільнага. Ён заявіў, што тэлефануе з нагоды рэгістрацыі арганізацыі з Міністэрства юстыцыі і ў інтарэсах заснавальнікаў з ім звязацца. Сустрэча была прызначаная на 16 сакавіка ў холе Мінюста.

На сустрэчы Віталь Мікалаевіч заявіў, што ён супрацоўнік спецслужбаў, але ніякіх дакументаў не паказаў. Паводле яго словаў, заснавальнікі арганізацыі правераныя, прэтэнзій няма, і пытанне пра рэгістрацыю арганізацыі залежыць выключна ад згоды пра супрацоўніцтва.

«На маё пытанне «А што гэта азначае?» Віталь Мікалаевіч растлумачыў, што яны гатовыя усяляк спрыяць, у тым ліку і па рэгістрацыі замежных праектаў і грантаў, а таксама гатовыя пераключыць на нашу арганізацыю еўрапейскія праекты, якія знаходзяцца ўжо пад іх кантролем. Ён нават абмовіўся, што не трэба будзе працаваць, а толькі атрымаць грошы і даваць справаздачы. І людзі, якія з імі ўжо працуюць, маўляў, атрымліваюць 50—60 тысяч еўра ў год. Таксама ён гарантаваў поўную падтрымку і бяспеку ў рабоце арганізацыі», — піша Квантaліяні.

Супрацоўнік спецслужбаў заявіў, што ў выпадку адмовы арганізацыя не будзе зарэгістраваная, заснавальнікі трапяць у «чорны спіс» і ніколі не змогуць зарэгістраваць іншую арганізацыю, а ў самога Квантaліяні пачнуцца праблемы з выездам за мяжу.

«Віталь Мікалаевіч падсунуў мне паперу, у якой папрасіў падпісаць, што паміж намі адбылася гэтая сустрэча. Ад разгубленасці я напісаў яму гэтую паперу. Віталь Мікалаевіч сказаў, што будзе чакаць майго званка з пацверджаннем на працягу 40 хвілінаў», — піша Квантaліяні.

Пасля абмеркавання сітуацыі з калегамі было вырашана «не кантактаваць з гэтым чалавекам і чакаць вынікаў рэгістрацыі ад Мінюста». Тэрмін разгляду дакументаў скончыўся 22 сакавіка.

«Мы звязаліся з заснавальнікамі швейцарскага аддзялення і растлумачылі ім сітуацыю. З іх боку была адназначная рэакцыя, што для іх лепш нерэгістрацыя арганізацыі, чым праца са спецслужбамі», — паведамляе Квантaліяні. На працягу «ўсіх наступных дзён» з нумара «Віталя Мікалаевіча» пастаянна паступалі тэлефанаванні, але заснавальнік цэнтра трубку не здымаў. 19 сакавіка прыйшло смс-паведамленне: «Я прыйду з ператрусам».

Пасля гэтага Квантaліяні вырашыў расказаць пра ўсю гэтую сітуацыю. Ён разаслаў адпаведны ліст у СМІ.

«Я ніколі не думаў, што арганізацыі, якія дапамагаюць сацыяльна неабароненым слаям насельніцтва, таксама з'яўляюцца аб'ектам пільнай увагі з боку «камітэта добрых справаў», — іранізуе Квантaліяні.

Прэс-служба КДБ была недаступная для каментароў.

**Кастусь Матушыч**

«Лепш нерэгістрацыя арганізацыі, чым праца са спецслужбамі», — рашыў Квантaліяні.

# Тамашоўка: вясковы рай на радзіме Пракаповіча

**Для шчасця любой вёскі дастаткова, каб там нарадзіўся герой Беларусі.**

Мясцовыя жыхары вельмі проста тлумачаць, чаму ў Тамашоўцы так добра жыць. «Усё пачалося з сустрэчы выпускнікоў, — кажа дзед Валодзя. — Пеця Клімук падарыў школе аўтобус. Ды прысароміў свайго аднакласніка Пецю Пракаповіча. Кажа, ты на такіх грошах сядзіш, а дапамагчы не можаш? Пракаповіча, напэўна, зачапіла гэта». Цяпер Тамашоўка, што на самым поўдні Брэсцкага раёна, — адна з самых паспяховых вёсак Беларусі.

### Трыдзясятае царства

Каб апынуцца ў Тамашоўцы, ад Мінска трэба праехаць ажно 412 кіламетраў. Гэта нават далей, чым у забруджаны радыяцыяй Камарын.

Аб'явы ў інтэрнэце з прапановай аб продажы ўчасткаў у Тамашоўцы заманліва ўдакладняюць — 100 метраў ад Украіны! І гэта абсалютная праўда. Некалькі метраў ад знака населенага пункта — і вось ужо памежны пераход. Вёска знаходзіцца на беларуска-украінска-польскім узмежжы. Калі б не цяжкая спадчына Другой сусветнай, то такая б адлегласць была б і ад польскай мяжы, але ўзарваны мост паміж Тамашоўкай і Уладавай адрэзаў вёску ад гэтага старадаўняга горада на іншым беразе Буга.

Блізкасць мяжы накладае на турыстаў дадатковыя абавязацельствы. Кожны беларус, які надумае правесці ў Тамашоўцы больш за тры гадзіны, мусіць заплаціць 7 тысяч рублёў у банк за знаходжанне ў прымежнай зоне. Гэтая квітанцыя дзейсная на працягу года і пасуе для падарожжаў у любую прымежную кропку Беларусі.

**Працяг на стронцы 9.**

## Сцісла

• **Пачаліся працэсы Дашкевіча-Лобава і Ліхавіда.** 22 сакавіка ў судзе Маскоўскага раёна Мінска пачаўся суд над лідарам «Маладога фронта» Змітром Дашкевічам і актывістам арганізацыі Эдуардам Лобавым. Іх вінавацяць у збіцці выпадковых грамадзян 18 снежня. «Пацярпелыя» ў зале суда не прысутнічалі: адказвалі на пытанні з-за сцэнкі, каб іх твараў не бачылі. Цікава, што абодва пацярпелыя ніколі не працавалі і не карыстаюцца мабільнікамі. Яны блыталіся ў паказаннях. Працяг суда — 23 сакавіка.

У судзе Партызанскага раёна па справе аб «масавых беспарадках» пачалі судзіць 20-гадовага Мікіту Ліхавіда. Першае ж пасяджэнне прынесла сюрпрыз – пракурор запрасіў на разгляд аж 29 пацярпелых на Плошчы спецназаўцаў. За дзень дапыталі толькі дзесяць. Суд працягнецца 23 сакавіка.

• **Еўра абнавіў гістарычны максімум.** Курс еўра вырас на 22 рублі і склаў 4299 рублёў. Усяго ад пачатку года рубель упаў на 5,85% да валютнага кошыка і падбіраецца да мяжы дазволенага 8%-ага дэвальвацыйнага калідора.

• **Дзмітрый Адамовіч не прызнае віны.** Былы начальнік Упраўлення па расследаванні злачынстваў Дэпартамента фінрасследаванняў дзяржкантролю трапіў пад суд. На думку абвінавачання, галоўны фінансавы следчы краіны ўдзельнічаў у незаконным спыненні крымінальнага пераследу двух бізнэсоўцаў. Паводле высноваў следства, за гэта з іх прасілі 50 тысяч даляраў.

• **У Гомелі пратэстуюць супраць будаўніцтва школы ля хімзавода.** Жыхары новага гомельскага мікрараёна № 104 занепакоеныя, што новая школа-сад будзе адкрыта побач з заводам хімічных вырабаў.

• **Пачатак паводкі.** Узровень вады ў рэках расце па 1–10 см за суткі. Набрыньваюць Нёман і Бярэзіна. На Прыпяці на ўчастку Чэрнічы — Петрыкаў узроўні вады вышэйшыя за небяспечна высокія значэнні. Вясна чакаецца паўнаводная.

• **Рыжкоў, Харытанюк, Лабада і Цвірка – лаўрэаты прэміі імя Багдановіча.** У Сусветны дзень паэзіі 21 сакавіка ў Мінску названыя лаўрэаты новай літаратурнай прэміі «Дэбют» імя Максіма Багдановіча, заснаванай Беларускім ПЭН-цэнтрам і Саюзам беларускіх пісьменнікаў. У намінацыі «Паэзія» лаўрэатам стаў Віталь Рыжкоў за зборнік паэзіі «Дзверы, замкнёныя на ключы», у намінацыі «Проза» — Наталка Харытанюк за кнігу «Трынаццаць гісторый пра мёртвага ката».

**ЗП, АП, СМ**

## Самае чытанае на nn.by за 16—22 сакавіка

- Фантастычнае відэа пра беларускую міліцыю
- Банкі больш не закупляюць даляры
- Сфармаваўся «шэры» курс даляра — 3600 рублёў
- Замест мітынгу на Дзень Волі — калектыўнае ўскладанне кветак
- Дзень Волі, які ўратаваў Беларусь ад аншлюсу
- Кадафі сабраў вакол сваіх «Драздоў» лівійскіх БРСМаўцаў
- Кадафі абяцае спыніць агонь
- Апакаліпсіс сёння. У бліжэйшыя гадзіны ў Фукусіме магчымы катастрафічныя падзеі
- Дзень Волі адпраўляюць у нізкае месца
- Раманчук: Сеткі так шчыльна расстаўленыя, што ў Лукашэнкі наогул не застаецца ніякай свабоды манеўру

# Байкот уладаў і выбараў

Працяг са старонкі 1.

Для поспеху кампаніі яны бачаць як патрэбу «рэгулярнае і аператыўнае данясенне праўдзівай інфармацыі да ўсяго насельніцтва». Прычым яны лічаць, што «з гэтым апазіцыя нядрэнна справілiся падчас прэзідэнцкай кампаніі і здольная справіцца і далей». «Цікавыя крэатыўныя ідэі распаўсюджваюцца вокамгненна — з кожным днём усё больш людзей разумеюць, што значыць ШОС».

Акрамя распаўсюджвання антылукашэнкаўскай інфармацыі, яны заклікаюць да «адмовы ад супрацоўніцтва з уладай».

Казулін, Шушкевіч расшыфроўваюць, што маюць на ўвазе: байкот дзяржаўных мерапрыемстваў, праўрадавых арганізацый і СМІ, грамадскае ганьбаванне дзяржслужбоўцаў, якія бяруць удзел у рэпрэсіях, а таксама меры эканамічнага характару (здыманне банкаўскіх укладаў, масавая скуплянне валюты, адмова ад тавараў і паслуг, байкот фірмаў, якія супрацоўнічаюць з рэпрэсіўнымі органамі).

Урэшце, фіналам стратэгіі мае стаць байкот выбараў.

Палітыкі прызнаюць, што «самыя сур'ёзныя апоры рэжыму, міліцыя і спецслужбы» падтрымлівалі яго 19 снежня верна. І спадзяюцца, што грамадскае непадпарадкаванне будзе ўплываць на іх.




Апошні раз апазіцыя дружна байкатавала выбары ў 2000-м.

Аўтары спадзяюцца: «Да парламенцкіх выбараў больш за год. У нас ёсць усе шанцы правесці эфектыўную кампанію байкоту, ізаляваць ўладу і вымусіць яе неадкладна вызваліць палітвязняў і пачаць перамовы з апазіцыяй аб правядзенні свабодных выбараў».

Варта адзначыць, што толькі самыя згуртаваныя супольнасці (косаўскія албанцы, палесцінцы) былі здольныя на такія маштабныя і доўгатэрміновыя кампаніі. Палітычная свядомасць беларусаў пакуль нашмат слабейшая.

Вазьміце польскую «Салідарнасць» — на што моцны быў рух, з мільёнамі ўдзельнікаў, тысячамі страйкаў, і то на глабальны байкот уладаў не замахваўся. Ён абмяжоўваўся больш лакальнымі дзеяннямі.

З ідэяй байкоту можа стацца тое самае, што з ідэяй альтэрнатыўных прэзідэнцкіх выбараў у свой час. У беларускіх умовах такі байкот падтрымаюць у той ці іншай ступені ўсяго некалькі дзясяткаў тысяч чалавек. Нашмат большая колькасць людзей застаецца ў маўклівай апазіцыі, бо не бачыць эканамічнай і палітычнай магчымасці для пратэставага ладу жыцця. Узровень страху пасля выбараў ізноў вырас: прыгадваецца расказ Маі Абромчык, як яе сваякі баяліся нават тэлефанаваць яе бацькам.

Байкот парламенцкіх выбараў — лагічная прапанова, якая, можна меркаваць, будзе шырока абмяркоўвацца. Грамадства ў такіх «выбарах», на якіх загадзя вядомыя пераможцы, сапраўды расчаравалася. Што да апазіцыі, то раней на абгрунтоўвала ўдзел эфектам ад звароту да выбарцаў праз дзяржаўныя СМІ і магчымасцю легальнага распаўсюду ўлётак. Аднак на іншым полюсе яна атрымлівала большую легітымізацыю выбарчага працэсу ў вачах насельніцтва.

Што да байкоту органаў улады, то гэты рамантычны заклік практычнага значэння, напэўна, мець не будзе.

У прыярытэты большасці беларусаў гэты заклік не трапляе. Аўтары звароту выдаюць жаданае за рэальнае.

**Мікола Бугай**

# Станіслаў Шушкевіч: Урастанне ў рэжым немагчымае

Першы кіраўнік незалежнай Беларусі Станіслаў Шушкевіч тлумачыць ідэю байкоту.

**«Наша Ніва»: Што стала штуршком для напісання гэтага маніфесту?**

**Станіслаў Шушкевіч:** Гэта ні ў якім разе не маніфест. Я нават здзіўлены, чаму яго так ахрысцілі. Так выйшла, што ўсе мы разам сустрэліся на адной сустрэчы ў Вільні. Гэтая заява была напісаная залпам, за адзін вечар. Мы лічым, што нешта трэба рабіць. Нельга зацягваць гэтую сітуацыю на многія гады. Мне здаецца, што частцы людзей з апазіцыйнага асяроддзя гэтага хацелася. Бо яны будуць заставацца пры справе. Апошнім часам я шмат езджу па замежжы. Гавару з еўрадэпутатамі, тлумачу сітуацыю. Па-людску яны ўсё разумеюць. Урастанне ў рэжым немагчымае. А тыя захады, што прапаноўваем мы, добра вядомыя ў свеце. Тыя ж прынцыпы Гандзі.

**«НН»: Гэта адказ на «Стратэгію-2012» іншага крыла апазіцыі, якая прадугледжвае дыялог з уладамі?**

**СШ:** Відавочна. Мы паслухалі гэтых хлопцаў і дзяўчат, але яны нічога канкрэтнага не прапануюць. Калі мы расказваем пра сваю ініцыятыву, то чуем, што яна недасканалая. Вядома, недасканалая. Нічога не бывае дасканалага. Але давайце разам яе паляпшаць.

**«НН»: Чаму Вы лічыце, што байкот можа быць паспяховай тактыкай?**

**СШ:** У нас ніколі не было байкоту. І я раней як старшыня партыі заўсёды выступаў супраць байкоту выбараў. Але цяпер за нашымі плячыма перамога ў выбарах. Той чалавек, што на іх перамог, сядзіць у турме. А нам прапануюць весці дыялог і удзельнічаць у выбарах. Тым самым рыхтаваць новую партыю людзей, што будзе гнісці ў турмах.



**«НН»: Беларусы саспелі, каб падтрымаць тактыку негвалтоўнага байкоту ўлады?**

**СШ:** Мне здаецца, што ў нас можа атрымацца не горш, чым у Індыі. Асабліва пасля таго, як Расія адмовіцца працягваць карміць гэтую ўладу.

**«НН»: А самі Вы ўжо пачалі байкатаваць уладу?**

**СШ:** У мяне пенсія ў адзін даляр. І я не іду на паклон. Вядома, што я яе даўно байкатую. Яшчэ можна, напрыклад, плаціць за камунальныя паслугі ў апошні дзень, а не за пятнаццаць дзён. Трэба распрацоўваць розныя метады.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

# Мядзведзеў асадзіў Пуціна наконт Лівіі

Прэзідэнт Расіі: «Паводзіны Кадафі былі пачварнымі, і цяперашняя аперацыя з'яўляецца наступствам злачынстваў супраць народа».

Прэзідэнт Расіі Дзмітрый Мядзведзеў заявіў журналістам у падмаскоўных Горках, што не лічыць рэзалюцыю Рады бяспекі ААН па Лівіі «няправільнай».

«Гэтая рэзалюцыя ў цэлым адлюстроўвае і наша разуменне таго, што адбываецца ў Лівіі, але не ва ўсім. Нельга гаварыць, што мы не разумеем, што робім. І біць сябе крыламі па корпусе», — сказаў Д.Мядзведзеў.

«Паводзіны Кадафі былі пачварнымі, і цяперашняя аперацыя з'яўляецца наступствам злачынстваў супраць народа», — лічыць прэзідэнт Расіі.

Літаральна ў гэты самы дзень процілеглую заяву па Лівіі зрабіў прэм'ер-міністр Расіі Уладзімір Пуцін.

«Рэзалюцыя ААН па Лівіі непаўнавартасная і заганная. Гэта рэзалюцыя нагадвае сярэднявечны заклік да крыжовых паходаў», — зрабіў заяву У.Пуцін.

Прэзідэнцкія выбары ў Расіі адбудуцца праз год. І барацьба груповак перад імі ўзмацняецца.

Выказаўся з нагоды супярэчнасцяў між Пуціным і Мядзведзевым і Аляксандр Лукашэнка. «Мне здаецца, што ёсць магчымасць дамовіцца паміж гэтымі людзьмі. Яны вядуць сябе годна, хоць гэта і няпроста», – дыпламатычна выказаўся кіраўнік Беларусі.

Летась некаторыя расійскія каментатары ўгледжвалі ў дзеяннях Лукашэнкі спробы пасварыць Мядзведзева і Пуціна. Выказвалася нават меркаванне, што атака на Лукашэнку ў расійскіх СМІ была выклікана менавіта гэтым.

**ЗП**

# Раманчук: У Крамлі Сідорскаму «рэкамендавалі» ісці на перамовы з дэманстрантамі

Гранічна шчырае інтэрв'ю для сайта gazetaby.com даў былы кандыдат у прэзідэнты Яраслаў Раманчук.

Ён праліваe свет на некаторыя моманты выбарчай кампаніі, а таксама выказвае свае здагадкі.

«Нібыта ў размовах з Пуціным прагучаў план захопу Дома ўрада. Наколькі гэта адпавядае рэчаіснасці, сказаць не магу. Прынамсі, я тады разумею логіку тых, хто заклікаў ісці да Дома ўрада і пайшоў туды на перамовы. Таму што ў той момант я быў здзіўлены, калі а палове 12-й кандыдаты заявілі: мы ідзём на перамовы з урадам. Пра што? З кім размаўляць?

Гэта потым я даведаюся (чуткі неправераныя), што ў Крамлі «рэкамендавалі» Сідорскаму ў выпадку, калі Дом урада будзе заняты, ісці на перамовы з дэманстрантамі. Тады многае сыходзіцца. Тады зразумела, чаму людзі патусавалі да Дома ўрада. Лагічна: ты яго займаеш, робішся ледзь не цэнтрам улады і вядзеш перамовы», – лічыць Раманчук.



«Дарэчы, я не выключаю, што лідараў выкарыстоўвалі ўцёмную. Яны не ведалі, у што гулялі. Яны проста выконвалі сваю частку. І, думаю, ішлі на плошчу з самымі мірнымі намерамі. А тут — раз — і трапілі», – выказвае меркаванне экс-кандыдат у прэзідэнты.

**ЗП**

# Адвакатка нарэшце пабачыла Статкевіча

«Схуднеў, але вясёлы».

18 сакавіка адбылося кароткачасовае спатканне адвакаткі Таццяны Станкевіч з яе падабаронным Міколам Статкевічам.

«Кажа, што Мікола схуднеў, але выглядае бадзёрым і вясёлым», — расказвае грамадзянская жонка Статкевіча Марына Адамовіч.

Кандыдата ў прэзідэнты ўжо пачалі знаёміць з матэрыяламі справы. За першы дзень Статкевіч паспеў прагледзець тры тамы справы. Нагадаем, што даваць паказанні Статкевіч адмовіўся.

Адвакаты не бачылі Статкевіча ад 29 снежня, калі палітыку было прад'яўлена абвінавачванне ў падрыхтоўцы масавых беспарадкаў. Столькі ж адвакаты не мелі вестак ад Паўла Севярынца, Анатоля Лябедзькі, Сяргея Марцалева, Змітра Бандарэнкі.

У той самы дзень абвінавачванне ў арганізацыі масавых беспарадкаў было прад'яўлена яшчэ аднаму кандыдату ў прэзідэнты — Дзмітрыю Усу (старонка 6).

Ус быў затрыманы вечарам 19 снежня, але адпушчаны пасля заявы з асуджэннем правакацый. «Мне казалі: можаш ісці як сведка, але тады трэба даваць паказанні, што Статкевіч арганізоўваў масавыя непарадкі, і расказваць, што ён рабіў. Я ад гэтага адмовіўся», – кажа Ус.

На Уса пачалі ціснуць таксама праз сына. 14-гадовага Івана Уса выклікалі на допыт у КДБ. Іх цікавіў тэлефонны званок бацьку, які малы зрабіў 19 снежня. Іван палічыў колькасць аўтазакаў на вуліцы Карла Маркса. Гэта палічылі падрыхтоўкай да масавых беспарадкаў.

**ЗП**

# Шэры курс даляра — 3600 рублёў. А рэальны — 3270?

Працяг са старонкі 1.

### «Шукайце валюту ў кліентаў»

Кіраўнік упраўлення інфармацыі Нацбанка Анатоль Драздоў паспрабаваў перакласці праблемы з хворай галавы на здаровую і параіў банкам шукаць валюту... на рахунках у кліентаў. Маўляў, барыцеся ў адных і прадавайце іншым. Зразумела, што банкі не хочуць распрадаваць свой капітал, не маючы гарантый, што здолеюць вярнуць яго. У апошнія дні колькасць валюты, якая завозіцца ў абменнікі, па-ранейшаму складае $3-5 тысяч, што відавочна недастаткова пры шалёным попыце. Пры адсутнасці даляраў і еўра насельніцтва скупляла нават расійскія рублі.

### Рэкордны еўра

Таргі па еўра не спыняюцца. У выніку афіцыйны курс еўра дабраўся да рэкорду і ўжо дасягнуў 4298 рублёў. У абменніках зусім іншыя лічбы, напрыклад, курс продажу сягае аж 4400 рублёў. Паколькі патроху расце і курс расійскага рубля, валютны кошык ужо дайшоў да свайго гістарычнага максімуму. З пачатку года дэвальвацыя ўжо складае 5,9%.

### Няўмольны даляр

Эканаміст Сяргей Жбанаў прыводзіць свае падлікі: «Паколькі беларускі рубель з'яўляецца слаба канвертаванай валютай і яго абарот ажыццяўляецца ў межах рэспублікі, аб'ектыўны абменны курс нацыянальнай валюты можна лёгка вылічыць. Для гэтага аб'ём актыўнай грашовай масы (13,165 трыльёна рублёў) варта падзяліць на памер залатавалютных рэзерваў ($4,023 мільярда). Атрымліваецца, што 1 даляр рэальна каштуе 3272 рублі. І нават калі Нацбанк будзе адмаўляцца ад дэвальвацыі і ўтрымліваць курс на цяперашнім узроўні коштам рэзерваў, то рэальны курс даляра будзе няўхільна павялічвацца.

### Пастаўшчыкі страхуюць рызыкі

Тым часам у краіне сфармаваўся «шэры» курс беларускага рубля, які на 19% вышэйшы за банкаўскі і складае 3600 рублёў за адзін даляр. Гэтая інфармацыя распаўсюджваецца са спасылкай на кампаніі-пастаўшчыкі аргтэхнікі. Менавіта такі курс выкарыстоўваецца большасцю ўдзельнікаў рынку для пераафармлення дакументаў на павышэнне цэнаў. Оптавыя пастаўкі ІТ-тавараў (маніторы, ноўтбукі, друкаркі) падаражэлі на 15–17%, тэлекамунікацыйныя тавары (у прыватнасці, мабільныя тэлефоны) — на 25–30%. Пры гэтым пастаўкі ажыццяўляюцца толькі пры 100%-й перадаплаце.

### Патраенне курсаў

Гэтая сітуацыя вяртае Беларусь у пачатак 2000-х гадоў, калі ў краіне існавалі тры курсы валюты. Адзін быў афіцыйны, другі — на чорным рынку наяўнай валюты, трэці — для безнаяўных разлікаў. Цяперашняя сітуацыя абумоўлена недахопам валюты і дэвальвацыйнымі чаканнямі грамадства. Усё гэта вымагае ўжывання надзвычайных мераў для ўратавання фінансавай стабільнасці.

**Яўген Васількоў**

# Каму прадаць беларускія рублі за мяжой?

Курс у Варшаве дасягае 4808 рублёў за даляр.

Прынцыповае адрозненне беларускіх рублёў ад грошай суседніх краінаў у тым, што абмяняць нашы банкноты за межамі краіны неймаверна цяжка. Гэта робіць рублі слаба канвертаванай валютай. Калі ж замежныя «кантары» і прымаюць іх, то курс выстаўляецца такім, што варта хапацца за галаву.

«Наша Ніва» знайшла ў сталіцах суседніх краін абменнікі, якія гатовыя прыняць у беларусаў рублі і выдаць даляры. Праўда, для гэтага давядзецца правесці дзве аперацыі, бо прамога курсу абмену рубель/даляр няма. Таму спачатку атрымліваем злотыя ці грыўны, а пасля купляем амерыканскую валюту.

Самы выгадны і набліжаны да беларускага курс зафіксаваны ў прывакзальным абменніку ў Вільні. Там за даляр трэба заплаціць усяго 3135 рублёў, усяго на 1,7% больш, чым у Мінску. У Маскве абменны курс складае 3203 рублі.

Наколькі беларускія банкі не давяраюць грыўне, настолькі ж і ўкраінскія ігнаруюць беларускі рубель. Адзінкавыя банкі, якія працуюць з нашай валютай у Кіеве, просяць за даляр каля 3510 рублёў. Гэта трохі менш, чым у Латвіі, дзе інтэрнэт-абменнікі выставілі курс 3650.

Самы дарагі для беларусаў даляр знойдзены ў Варшаве. Тут курс дасягнуў ажно 4808 рублёў! Удакладнім, што ўсе курсы прыведзеныя без магчымых камісійных даплат.

**ЯВ**




# Абяцалі тэлевізар — вярнулі пачак запалак

Савецкія ўклады абясцэніліся да мізару.

Людзі атрымліваюць прыбытак з грошай, укладзеных іх бацькамі на пачатку існавання незалежнай Беларусі. Аказваецца, што з 400 тагачасных рублёў засталося... усяго 70 цяперашніх рублёў. Пра адзін з такіх выпадкаў напісаў гісторык Сцяпан Стурэйка.



ВЫПИСКА СЧЕТА 04000344
7-Целевой детский
(0426/0079) [redacted]
Дата открытия счета: 29 октября 1991г.

| Дата | Сумма операции | Остаток |
|---|---|---|
| 31/12/1993 кап | 23.62 + | 455.20 |
| 20/08/1994 ДН | 409.68 - | 45.52 |
| 31/12/1994 кап | 135.00 + | 180.52 |
| 12/09/1995 +ко | 90.00 + | 270.52 |
| 31/12/1995 кап | 609.64 + | 880.16 |
| 31/12/1997 кап | 370.99 + | 1,251.15 |
| 31/12/1997 кап | 508.10 + | 1,759.25 |
| 31/12/1998 сп/ | 0.25 - | 1,759.00 |
| 31/12/1998 кап | 889.00 + | 2,648.00 |
| 31/12/1999 кап | 2,074.00 + | 4,722.00 |
| 31/12/1999 ДН | 4,717.00 - | 5.00 |
| 31/12/2000 кап | 7.00 + | 12.00 |
| 31/12/2001 кап | 13.00 + | 25.00 |
| 31/12/2002 кап | 17.00 + | 42.00 |
| 31/12/2003 кап | 15.00 + | 57.00 |
| 31/12/2004 кап | 10.00 + | 67.00 |
| 31/12/2005 кап | 0.00 + | 67.00 |
| 28/02/2011 р/о | 3.00 + | 70.00 |
| 28/02/2011 н/з | 70.00 - | 0.00 |

Наименование операции: Закрытие счета
Остаток: 0.00 СЧЕТ ЗАКРЫТ

Ягоныя бацькі зрабілі «мэтавы дзіцячы ўклад» у канцы 1991 года. Умовы гульні былі простыя — трэба было паступова ўносіць сродкі на імя малога, каб па дасягненні ім 18 гадоў банк выплаціў ажно 1000 савецкіх рублёў — кошт тагачаснага тэлевізара. Вось толькі «кантракт» не прадугледжваў ні магчымых дэнамінацый, ні індэксацый у сувязі са зменай грошай...

У 2011 «Беларусбанк» запрасіў няўдачлівага ўкладчыка атрымаць яго законныя грошы. Падпісаўшы пяць альбо шэсць папер, ён атрымаў на рукі... 70 беларускіх рублёў. А разам з імі — даўжэзную квітанцыю, на якой адлюстраваная ўся фінансавая гісторыя незалежнай Беларусі.

Першая ж дэнамінацыя, праведзеная Лукашэнкам у 1994 годзе, «падрэзала» ўклад у 10 разоў. Але ў тыя часы працэнтная стаўка была гіганцкай, напрыклад, у 1995-м годзе яна дасягала фантастычных 430%! Грошы раслі як на дражджах. Да канца 1999 года на рахунку назапасіліся рэкордныя 4722 рублі, якія ў навагоднюю ноч дэнамінацыі расталі да дробных і незаўважных пяці рублёў. Наступныя гады — павольны рост укладу, які ўрэшце дасягнуў 70 рублёў — кошт пачка запалак. Усё сумленна і пацверджана дакументамі... Калі б грошы індэксаваліся пры правядзенні дэнамінацый, рахунак бы складаў 700 тысяч. «Амерыканскія банкіры задушыліся б ад зайздрасці пры такой даходнасці ўкладаў», — іранізуе Сцяпан Стурэйка.

Ці магчымая такая сітуацыя цяпер? «Адназначна не, — пераконваюць у «Беларусбанку». — Цяпер нашмат ніжэйшая стаўка рэфінансавання, таму ўклады не растуць так хутка і іх не з'ядае інфляцыя». Разам з тым, усе ўладальнікі рублёвых дэпазітаў разумеюць, што перад дэвальвацыяй іх уклад не ўратуе нічога.

**ЯВ**

# Фантазіі Пракаповіча

Кіраўнік Нацбанка абяцае давесці рэзервы краіны да $10 мільярдаў да канца года.

Старшыня Нацыянальнага банка Пётр Пракаповіч чарговым разам заявіў, што аднамомантавай дэвальвацыі ў Беларусі не адбудзецца: «Наш досвед кажа, што рэзкая дэвальвацыя — дрэнная рашэнне для беларусаў». Па яго словах, пад аднамомантавай дэвальвацыяй ён разумее павышэнне курса замежнай валюты нават на 5%.

«Банкі сёння задавальняюць попыт на валюту. Думаю, пройдзе некалькі дзён — і людзі супакояцца, «набегі» на абменнікі скончацца», — расказвае ён. Дзеянні насельніцтва, на думку Пракаповіча, замінаюць развіццю эканомікі: «Задавальняючы попыт на валюту цалкам, мы даём дадатковую нагрузку на нашу банкаўскую сістэму, бо ўрэшце гэтае пытанне вырашаецца за кошт нашых золатавалютных рэзерваў. Мы прыцягваем замежныя крэдыты і прадаём валюту насельніцтву замест таго, каб укладваць яе ў развіццё эканомікі і засяродзіцца на галоўным — выкананні праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на бягучае пяцігоддзе».

Але прагноз усё адно станоўчы. «Мы давядзём золатавалютныя рэзервы сёлета да $10 мільярдаў і больш іх змяншаць не будзем», — сказаў Пётр Пракаповіч.

Вось толькі як? Няўжо прададуць «Беларуськалій» з вантробамі?

**ЯВ**

### Сцісла

• **Лукашэнка хоча мільярд даляраў за акцыі МТС.** «Не хочаш купляць – выставім на аўкцыён», — прыстрашыў ён. На дадзены момант акцыянерамі з'яўляюцца расійскае ААТ МТС, якое валодае 49% акцый, і беларускі «Белтэлекам», якому належыць 51%.

• **Адмоўнае сальда гандлю таварамі за студзень — $900 мільёнаў.** Імпарт склаў $2471,2 мільёна, а экспарт — $1568,6 мільёна. Асноўнымі гандлёвымі партнёрамі краіны сталі Расія (48,1%), Украіна (5,9%), Венесуэла (4,6%) і Кітай (4%).

• **Малако зноў пабегла.** У Беларусі ў два этапы павялічваюцца адпускныя цэны на мяса і малако. У сакавіку ялавічына падаражэе на 4%, свініна, малако, кефір, смятана і тварог да 2%, у красавіку — малако, кефір, смятана, тварог і ялавічына яшчэ на 2%.

• **Расійскія нафтавікі ўцякаюць з Беларусі.** Нафтавая кампанія ААТ «Лукойл» перанесла штаб-кватэру ўсходнееўрапейскага міжрэгіянальнага аб'яднання (МРА) з Мінска ў Кіеў. Месяц таму прадстаўніцтва ў Мінску закрыла і нафтагазавая кампанія «Слаўнафта». Афіцыйнае тлумачэнне — «у рамках аптымізацыі дзейнасці кампаніі».

**ЯВ**

## Інжынера з Мінска Аляксандра Ліхадзіеўскага

# японскі землятрус заспеў на 25-м паверсе

«Пасля землятрусу мы паўдня не маглі звязацца з братам».



39-гадовы Аляксандр працуе ў Токіа інжынерам па інфармацыйных тэхналогіях. У Японіі ён з кастрычніка 1996 г. Аляксандр расказаў «НН» пра перажытае ў часе землятрусу і спробы вярнуцца ў Беларусь.

Землятрус 11 сакавіка 2011 г. заспеў яго на працы ў офісе, размешчаным на 25-м паверсе. Жудасныя хвіліны ён перажыў разам з жонкай-японкай, якая з двухмесячнай дачкой прыйшла яго адведаць. Будынак, у якім месціцца офіс беларуса, выстаяў, але страху яны нацярпеліся цераз край.

Калі стала вядома пра пагрозу радыяцыйнага забруджання ў выніку аварый на АЭС, Аляксандр з жонкай вырашылі з'ехаць з Японіі. «Я не хацеў, каб здароўю маёй дачкі была нанесена шкода», — кажа ён.

У першыя дні, прасякнутыя панікай і радыяфобіяй, Аляксандр гатовы быў вылецець з краіны ў любы момант. Але паўсталі праблемы: квіткоў на самалёты было не дакупіцца, а калі што і траплялася, то было завоблачна дарагім.

У той жа час жонку-японку не пускалі на борт самалётаў, што выдзяляў беларускі бок. Была і праблема з дачкой, на якую не паспелі аформіць пашпарт.

Цяпер у Японіі паспакайнела, кажа Аляксандр, японскія ўлады прыкладаюць вялізныя намаганні, каб ліквідаваць наступствы катастрофы. Тым не менш, ён адчувае, што сітуацыя пакуль далёкая ад стабільнай. І не пакідае надзеі з'ехаць да лепшых часоў з краіны.

У Мінску жывуць бацькі Аляксандра і сястра Ірына. «Пасля першых паведамленняў пра землятрус мы паўдня не маглі звязацца з братам, — прыгадвае Ірына. — Гэта цяпер паспакайнела, а калі пасля аварыі на «Фукусіме» пачалася паніка, набыць квіткі на самалёт было практычна немагчыма». У МЗС ім патлумачылі, што эвакуацыя не абвешчаная, таму выбірацца з Японіі беларусам давядзецца самастойна і за свой кошт. Апошні раз брата Ірына бачыла ў студзені 2010 года, калі той гасцяваў у Мінску.

**Сямён Печанко**

Афіцыйна: беларусам прапаноўвалі вылет на расійскі Далёкі Усход.

Як паведаміў «НН» прэс-сакратар МЗС Андрэй Савіных, ён не бачыць праблемы ў тым, каб разам з беларускімі грамадзянамі ў Беларусь ляцелі іх сужэнцы-японцы. Тым больш што цяпер у самалётах з'явіліся вольныя месцы. Ён нагадаў, што ў першыя дні МЗС Беларусі прапаноўваў усім ахвочым варыянты эвакуацыі з вылетам у бліжэйшыя расійскія гарады, але не шмат хто скарыстаўся з той магчымасці. Ён пацвердзіў, што беларуская дзяржава не аплачвае авіяпералётаў з Японіі.

Па інфармацыі беларускага пасольства ў Японіі, на сёння ў краіне знаходзіцца каля 300 грамадзянаў Беларусі. Каля 80 з іх выйшлі на кантакт з пасольствам. Некалькі беларусаў знаходзіліся ў зоне бедства, але здолелі яе пакінуць.

## Стынг зноў праспявае ў Мінску

Канцэрт пройдзе ў «Мінск-Арэне» 27 чэрвеня.



У часе яго брытанскі рок-спявак выканае свае найвядомейшыя кампазіцыі. Хіты Стынга прагучаць у сімфанічнай аранжыроўцы.

Сэт-ліст Symphonicity ўключае хіты гурта The Police, салістам якога быў Стынг, а таксама кампазіцыі, створаныя за час яго сольнай кар'еры, — Englishman in New York, Fragile, Russians, If I Ever Lose My Faithin You, Fields Of Gold, Desert Rose.

Нагадаем, што 19 мая ў «Мінск-Арэне» пройдзе канцэрт Шакіры, а 12 чэрвеня там выступіць Мобі.

Упершыню Стынг выступіў для беларускай публікі 18 верасня 2010 года.

**АГ**




## На АНТ паказалі серыю фільмаў пра Слуцкі збройны чын

Першая серыя пад назвай «Слуцкае паўстанне» дэманстравалася тыдзень таму, а 21 сакавіка была паказаная другая серыя, прысвечаная здрадзе камандзіра 1-га Слуцкага палка Пятра Чайкі.

Сцэнар да фільма напісала Ганна Санюкевіч, рэжысёрам стаў Алег Чацверыкоў.

Фільм «40 дзён сялянскай рэспублікі» належыць да цыкла «Зваротны адлік», у рамках якога Людміла Клінцова зняла стужку пра Янку Філістовіча «Шпіён з-пад Вілейкі». Як і фільм Клінцовай, «40 дзён сялянскай рэспублікі» вытрыманы ў нейтральнай манеры.

**СП**

## У хакейным чэмпіянаце Беларусі ўведзены ўзроставы ліміт

А таксама ліміт заробкаў.



**Цяпер 40-гадоваму Алегу Антоненку будзе складана прабіцца ў склад «Гомеля». Алег — былы капітан зборнай Беларусі.**

У хакейным чэмпіянаце Беларусі ўведзены ўзроставы ліміт на гульцоў — 28 гадоў. Толькі 7 гульцоў у камандзе могуць быць старэйшымі. Такое рашэнне было прынята на выканкаме Федэрацыі хакея Беларусі.

Раней прапаноўвалася абмежаваць узрост 25 гадамі, але такая прапанова сустрэла моцны супраціў клубаў.

Таксама ўсталяваны новы заробкавы ліміт — 75 тыс. даляраў на каманду ў месяц. У камандзе звычай 23—25 гульцоў, то адзін хакеіст зараз будзе зарабляць прыкладна ў 10 разоў больш за настаўніка ў школе. Гэта без уліку прэмій за перамогі.

Нагадаем, што на мінулым тыдні быў распаўсюджаны зварот беларускіх хакеістаў, скіраваны ў Федэрацыю хакея, Мінспорту і турызму і Адміністрацыі прэзідэнта супраць увядзення ўзроставага ліміту 25 гадоў.

«Многія маладыя гульцы, каму сёння 24, 23, 22 і менш, задумаюцца, ці працягваць сумнеўную хакейную кар'еру ці, пакуль не згублены час і здароўе, набываць іншую прафесію, — гаварылася ў лісце. — Мала хто з бацькоў аддасць свайго сына ў хакейную школу, ведаючы, што ў 25 гадоў прафесійная кар'ера, хутчэй за ўсё, закончыцца і дзіця папоўніць армію беспрацоўных, прычым у 25 гадоў, не маючы ні спецыяльнай адукацыі, ні прафесіі».

Аўтары ліста таксама нагадвалі пра арт. 41 Канстытуцыі, які гарантуе права на працу, і пра арт. 14 Працоўнага кодэкса, які забараняе дыскрымінацыю ў сферы працоўных адносінаў, у тым ліку па ўзроставай прыкмеце.

У кулуарах кажуць, што ідэю абмежавання ўзросту прапіхнуў трэнер мінскага «Юнацтва» Міхаіл Захараў – былы трэнер зборнай.

**Алег Гардзіенка**

## Беларускую дыктоўку ў Гродне напісалі больш за 200 чалавек

Сярод удзельнікаў быў Аляксандр Мілінкевіч.



**Дыктоўка прайшла ў неацепленым памяшканні, але гэта не зашкодзіла.**

20 сакавіка ў Гродне больш за дзвесце чалавек напісалі традыцыйную нацыянальную дыктоўку. Напачатку перад удзельнікамі выступіў гурт сярэдневечнай музыкі «Ірдарат». Затым бард і літаратар Віктар Шалкевіч прадыктаваў тэкст пра стварэнне ў Гродне заапарка за польскім часам. Гэта ўрывак з кнігі пісьменніка-гарадзенца, а ў свой час — падпольшчыка Аляксея Карпюка «След на зямлі». Дыктоўку пісалі і моладзь, і сівыя людзі, школьнікі пачатковых класаў і універсітэцкія прафесары — Алесь Астроўскі, Аляксей Пяткевіч, Алесь Смалянчук. Яна прайшла пад дэвізам «Горадня з мовай!»

Пасля заканчэння дыктоўкі Віктар Шалкевіч прадставіў сваю новую кніжку «Requiem па непатрэбных рэчах», якая выйшла ў «Гарадзенскай бібліятэцы». Ён таксама выканаў пад гітару некалькі сваіх песень, публіцы найбольш спадабалася адна з новых — пра Славянскі базар.

**Паводле радыё «Свабода»**

# У Магілёве хочуць да тулава Леніна прыляпіць галаву Лукашэнкі

**І перайменаваць плошчу Леніна ў плошчу Лукашэнкі.**

Ініцыятыўная група жыхароў звярнулася з такой прапановай да старшыні аблвыканкама Пятра Рудніка. Помнік праваднру сусветнага пралетарыяту хочуць змяніць на помнік першаму прэзідэнту.

«НН» звязалася з ініцыятарам звароту Аляксеем Паўлоўскім.

— Спадар Аляксей, як з'явілася ідэя ўстаноўкі помніка?

— Наш старшыня выканкама Пятро Руднік быў даверанай асобай Аляксандра Рыгоравіча, мы наслухаліся ягоных прамоваў і вырашылі сабраць подпісы і сродкі на помнік першаму прэзідэнту. Паставіць яго замест Леніна — Ленін жа нічога не зрабіў для Беларусі.

— Шмат хто падпісаўся?

— Чалавек дваццаць, нават апазіцыя мясцовая. Мы накіравалі ліст у выканкам, але ніякага адказу не было. Мы прасілі не толькі помнік, але хочам сродкаў, каб пабудаваць яму катэдж. А то сыдзе ён з пасады, а жыць няма дзе, а тут будзе домік. Магчыма, тады яму сыходзіць спакайней будзе.

— А які помнік вы прапануеце, у поўны рост ці бюст?

— Мы думаем так: можна, з улікам дырэктывы аб эканоміі, проста замяніць галаву на помніку Леніна.

— А як стаўленне людзей да праекта?

— Ну, у нас тут яго не вельмі любяць. Я так думаю, хай, можа, ён ужо сыходзіць, бо столькі гадоў працуе. А мы ў яго гонар плошчу назавём — усё ж такі гістарычная асоба.

**УС**



# «Гнюсная фальшыўка» ў дзеянні

**Ва ўсёй краіне забараняюцца канцэрты апальных артыстаў.**

«Чорны спіс» апальных артыстаў пачаў дзейнічаць. Першай ластаўкай стала адмена канцэрта «Ляпіса Трубяцкога» ў Гомелі 13 сакавіка. Іх жа канцэрт у Магілёве 20 сакавіка сарвалі за некалькі дзён да правядзення. У абодвух выпадках прычыны для адмены выступаў былі надуманыя.

Без тлумачэння прычынаў адмянілі канцэрт «Крамбамбулі» ў мінскім пабе «Госці». Адмену канцэртаў Зміцера Вайцюшкевіча ў Брэсце і Мінску патлумачылі «тэхнічнымі прычынамі», а вось гурт «Нейра Дзюбель», канцэрт якога ў клубе «Рэактар» таксама сарвалі, адкрыта абвінавацілі ў «падтрымцы апазіцыі».

Зрэшты, спіс заўважаных у «падтрымцы апазіцыі» не абмяжоўваецца адно беларускімі музыкамі. Як цвердзяць супрацоўнікі афіцыйных СМІ і некаторых ФМ-станцый, у яго ўваходзяць каля паўсотні творчых асобаў і музычных гуртоў не толькі з Беларусі, але з Расіі і ЗША.

І хоць міністр інфармацыі Алег Праляскоўскі адразу пасля з'яўлення інфармацыі пра «чорны спіс» назваў размовы пра гэта «правакацыяй» і «гнюснай фальшыўкай», хваля забаронаў канцэртаў гаворыць сама за сябе.

**Гэта мы ўжо праходзілі**

У 2004—2007 канцэрты N.R.M., «Палаца», «Нейра Дзюбеля», «Крамы» ды іншых былі пад фактычнай забаронай у Беларусі. Яна была знятая пасля паходу лідараў забароненых гуртоў у адміністрацыю Лукашэнкі. Іх прыняў усё той жа Праляскоўскі, тагачасны кіраўнік галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення адміністрацыі. Як бачым, адліга была кароткай.

**Сямён Печанко**

# Польскія нацыяналісты вінавацяць «Белсат» у антыпольскасці

**З адпаведнай заявай выступіў шэраг польскіх «крэсовых» арганізацый.**

Для іх «Белсат» — костка ў горле, бо працуе на ўмацаванне нацыянальнай свядомасці беларусаў. А яны хацелі б умацавання польскасці на крэсах.

«Ці з'яўляецца мэтай тэлеканала «Белсат» дэмакратызацыя Беларусі, стварэнне грамадзянскай супольнасці ў беларускай дзяржаве, азнаямленне грамадзян Беларусі з дэмакратычнымі каштоўнасцямі?» — з такога пытання пачынаецца зварот прадстаўнікоў цэлага шэрагу польскіх грамадскіх арганізацый да кіраўніка Краёвай рады радыё і тэлебачання Яна Дворака.

Падпісанты ліста абвінавачваюць «Белсат» у тым, што ён аднабакова паказвае гісторыю і культуру Беларусі, дыскрымінуючы польскую нацыянальную меншасць. У якасці прыкладу прыводзіцца экранізацыя «Тутэйшых» Янкі Купалы.

«Купала — творца культу Сталіна», — грымяць аўтары ліста. Яго аўтары таксама падкрэсліваюць, што польскае войска фігуруе ў «Тутэйшых» выключна ў якасці акупантаў, а польскія землеўласнікі паказаныя як агідныя «паны».

«За грошы польскіх падаткаплатнікаў і на канале польскага грамадскага тэлебачання, які глядзяць таксама грамадзяне Беларусі палякі, дэманструецца экранізацыя савецкага, сталінскага пісьменніка, які агітуе за далучэнне Беластока да СССР, аўтара вядомага верша, напісанага ў гонар Чырвонай Арміі, якая ўвайшла на тэрыторыю Польшчы 17 верасня 1939 года», — абураюцца аўтары звароту.

На іх думку, ідэя дэмакратыі прадугледжвае плюралізм і разнастайнасць думак, а «Белсат» дэманструе толькі адзін «нацыяналістычны» погляд на гісторыю і культуру Беларусі, абмінаючы польскую спадчыну краіны. Усе перадачы — па-беларуску, а па-польску нічога няма.

Ліст у Краёвую раду тэлебачання і радыё падпісалі больш за два дзясяткі дзеячаў. Сярод іх пераважна прадстаўнікі ультракансерватыўных колаў — кіраўнікі згуртаванняў каталіцкай інтэлігенцыі, арганізацый, якія займаюцца пытаннямі польскай спадчыны ва Украіне і Беларусі, аўтары кніг і навуковых прац па гісторыі усходніх тэрыторый міжваеннай Польшчы.

Акрамя Краёвай рады радыё і тэлебачання, заява з крытыкай «Белсата» накіраваная ў шэраг установаў. Сярод іх Міністэрства замежных справаў, Міністэрства культуры, а таксама шэраг камісій Сойма і Сената.

Колы, з якіх выйшла заява, не маюць у Польшчы вялікага ўплыву.

**Мікола Бугай**

# Памёр філосаф Аляксандр Грыцанаў

**Яму было 52 гады, прычынай смерці стаў інсульт.**

Здарылася тое ўначы на панядзелак.

Аляксандр Грыцанаў нарадзіўся ў Мінску. Скончыў БДУ. У 24 гады абараніў кандыдацкую дысертацыю, стаўшы самым маладым у СССР кандыдатам філасофскіх навук.

Выкладаў у многіх мінскіх універсітэтах (БДУ, Экалагічным імя Сахарава, Інстытуце бізнэсу і права). Кіраваў адной з найбуйнейшых у СНД энцыклапедычных кніжных серый. Быў калумністам «Белгазеты», а таксама аўтарам сайта «Наша думка».

У свой час Грыцанаў правёў за кратамі чатыры месяцы. Яго абвінавачвалі ў махлярстве.



«Упершыню я адчуў сябе беларусам — дакладней, жыхаром і грамадзянінам нашай Айчыны — у 1964 годзе. Мой бацька, які нарадзіўся пад Магілёвам, але ўсё сваё жыццё адслужыў у расійскім войску, прапанаваў мне прачытаць даўно чаканую мной кніжку «Падарожжа на Кон-Цікі» ў перакладзе на матчыну мову. Гэта было першае знаёмства з беларускімі словамі і нават літарамі. Кніга мне вельмі спадабалася, я чытаў яе за два ці тры тыдні разоў дзесяць. Калі я запытаў бацьку, навошта гэта рабіць, ён адзначыў: «Мы тут нарадзіліся, мы тутэйшыя; наша жыццё — гэта мова». Але я ўпэўнены: быць беларусам — гэта не толькі дрэнна разумець тых, хто размаўляе па-расейску, але яшчэ і змагацца за гонар нашае зямлі», — адзначаў Грыцанаў у адным з інтэрв'ю.

**ЗП**

## Спачуванні праз nn.by

Смуткуем з прычыны смерці Алеся Грыцанава, яркага чалавека і інтэлектуала, бліскучага выкладчыка «Беларускага калегіума», нашага сябра. Спачуванні усім блізкім да яго. Светлая памяць і вечны супакой.

**Алесь Анціпенка, Валянцін Акудовіч, Захар Шыбека, Максім Жбанкоў, Вольга Шпарага, Андрэй Хадановіч, Уладзімір Мацкевіч**

Выкладаў у мяне. Добры чалавек быў. Вечная памяць.

**Мікалай**

Застаецца толькі панаракаць на неба і на лёс. Ён адзін быў за цэлы калектыў. Спачуваю ўсім, хто Яго ведаў і з Ім супрацоўнічаў.

**Анатоль Сідарэвіч**

Ён быў адным з лепшых. Гэта велічэзная страта для краіны.

Светлая памяць, настаўнік.

**Алесь Чарняковіч**

# Уса звінавацілі ў «недаатрыманні прыбытку» «Макдональдсам»

**Блогеры патрабуюць ад «Макдональдса» тлумачэнняў.**

Дзмітрыя Уса вінавацяць не толькі ў арганізацыі масавых беспарадкаў. На яго вешаюць яшчэ і страты мінскага рэстарана «Макдональдс» на праспекце Незалежнасці — аж 8 мільёнаў рублёў. Маўляў, у выніку шэсця ў дзень выбараў была заблакаваная яго праца і недаатрыманы прыбытак.

Гэтая навіна шакавала беларускіх блогераў.

Адзін з іх, Яўген Ліпковіч, нават звярнуўся да адміністрацыі рэстарана па тлумачэнні. Там яму нічога не адказалі — яшчэ не вырашылі, як каментаваць сітуацыю.

Пазней прадстаўнік «Макдональдса» ў Беларусі Артур Юран заявіць, што яго кампанія прэтэнзіяў Усу не выстаўляла. Юран матэрыялаў крымінальнай справы супраць былога кандыдата не бачыў. Ён сказаў, што недаатрыманы прыбытак — службовая інфармацыя, якую кампанія не афішуе.




**Папулярную забягалаўку прычапілі да крымінальнай справы.**

Дарэчы, Уса вінавацяць і ў тым, што ён заклікаў грамадзян па Першым нацыянальным тэлеканале і радыё прыйсці на мітынг. Між тым, кажа ён, у відэазваротах заклiку на плошчу не было, а ад радыёпрамовы Ус увогуле адмовіўся.

Экс-кандыдат лічыць доказную базу супраць яго «пустой», абы спіхнуць справу ў суд».

Нагадаем, што Ус — чалавек хворы, які ў свой час перажыў клінічную смерць, выступаў на тэлебачанні кароткa, але рэзка. Ён параўнаў выбарчую сістэму ў Беларусі з гітлерскай.

Раз такое абвінавачванне выстаўленае Усу, яго, імаверна, выставяць і іншым кандыдатам у прэзідэнты.

**Алесь Пілецкі**

# «СБ» адцэнзуравала Мядзведзева

**«Паводзіны Кадафі былі пачварнымі, і цяперашняя аперацыя з’яўляецца наступствам злачынстваў супраць народа», — сказаў Мядзведзеў.**

Як хутка людзі здольныя забываць. Гэта Кадафі падрываў самалёты з мірнымі людзьмі. Гэта ён спаліў жыўцом турму з палітвязнямі. Паўстанне супраць яго было адчайным, бо не мела шанцаў на поспех. Мільярды нафтадаляраў дазвалялі яму ўтрымліваць агромністы рэпрэсіўны апарат і «вертыкаль» псеўданародных сходаў, якія размяркоўвалі даброты.

Адзіным спосабам адправіць гэтага нарцыса з ахоўным палком амазонак на звалку гісторыі было ўмяшанне свабоднага свету. А паўстанне ў Лівіі было адзінай нагодай для гэтага. Але як толькі свабодны свет – не толькі Захад, але і Усход – умяшаўся, Кадафі стаў біць на шкадаванне.

Праўда, міжнароднае права не дае саюзнікам магчымасці знішчыць Муамара Кадафі наўпрост. Амерыканскі генерал Картэр Хэм, кіраўнік лівійскай ваеннай кампаніі, падкрэсліў, што задача аперацыі — абарона цывільнага насельніцтва, а не падтрымка апазіцыйных сіл. Прадстаўнік французскага камандавання дадаў: нягледзячы на тое, што месцазнаходжанне Кадафі вядома, лівійскі лідар не будзе абстраляны.

У сваю чаргу прэзідэнт ЗША Барак Абама сказаў, што «амерыканскія ўлады працягваюць прытрымлівацца думкі, што Кадафі павінен сысці». Але сысці сам.

Тым часам не сціхаюць баі паміж паўстанцамі і ўрадавымі сіламі.

Умяшанне Захаду на Балканах многія крытыкавалі. Аднак справа была зробленая. І вось ужо 10 гадоў там больш не ліецца кроў.

Ясна, што і іншыя дыктатары свету заварушыліся, шукаюць цяпер прычэпкі да дзеянняў Захаду ў Лівіі, бо ведаюць, што і самі трымаюць уладу незаконна. Зусім як Кадафі – 42 гады правіў чалавек без свабодных выбараў, без свабоды слова, адзінаўладна распараджаўся мільярднымі багаццямі. Неабмежаваная ўлада раздурвала. Сыны Кадафі куплялі сабе на дні нараджэння канцэрты сусветных поп-зорак. За якія грошы, пыталіся лівійцы?

У гэтым святле цікава, што «Советская Белоруссія» адцэнзуравала словы Мядзведзева адносна сітуацыі ў Лівіі. У артыкуле «Скрынка Пандоры раскрылася шырока» ключавыя словы Мядзведзева журналіст апусціў. Ён працытаваў толькі: «Я лічу, што гэтая рэзалюцыя ў цэлым адлюстроўвае і наша разуменне таго, што адбываецца ў Лівіі». Аднак выкінуў: «Паводзіны Кадафі былі пачварнымі, і цяперашняя аперацыя з’яўляецца наступствам злачынстваў супраць народа».

Як можна апраўдваць Кадафі? Аргумент пра «ўнутраныя справы» тут не працуе.

**Мікола Бугай**

# Беларускае консульства завабіла польскіх журналістаў у прапагандысцкі тур

**Прэс-тур па Беларусі, які анансаваўся як «цалкам непалітычны», быў выкарыстаны для ўхвалення лукашэнкаўскага ладу. Гданьскі тэлеканал патрабуе ад БТ зняць сюжэт з эфіру.**

Ваяжы ў Беларусь журналістаў з расійскай глыбінкі, што заканчваюцца прэс-канферэнцыяй з Лукашэнкам у простым эфіры, паўтараюцца штогод. Але сёлета 15—19 сакавіка ў Беларусі гасцявалі польскія журналісты.

Візіт, як паведамлялі дзяржаўныя СМІ, арганізавалі Паморскае аддзяленне грамадскай арганізацыі «Польшча—Беларусь», генконсульства ў Гданьску і Культурны цэнтр Беларусі ў Польшчы. Госці наведалі Сілічы, Хатынь, Нацыянальную бібліятэку, малочнае прадпрыемства «Бабушкіна крынка», пабывалі ў абласных ды раённых гарадах.

БТ падкрэслівала, што палякаў цікавіць аб’ектыўная эканамічная інфармацыя пра Беларусь і «ніякай палітыкі». Але ў выніковым сюжэце прагучала характэрнае падсумаванне: простыя палякі не падзяляюць рэзалюцыі ЕС у дачыненні Беларусі.

### «Красиво у вас и приятно»

Польскі «дэсант» складаўся з двух дзясяткаў асобаў, многія з якіх — сябры Асацыяцыі фатографаў Памор’я. Аднак перад тэлекамерамі часцей выступалі тыя, хто не прадстаўляў СМІ. Напрыклад, Мікалай Бірыцкі — дырэктар страхавой кампаніі. Казаў, што ў Беларусі ўсё не так, як кажуць польскія СМІ. Або Іван Гайдэль, намеснік старшыні Грамадскага аб’яднання «Беларусь—Польшча». Ён на добрай расійскай мове расказваў пра нізкі ўзровень беспрацоўя ў Беларусі і нашмат горшы стан рэчаў у Польшчы. Малады журналіст Марцін Асоўскі таксама прамаўляў па-расійску без акцэнту. «Красиво у вас и приятно», — рэзюмаваў ён, адварочваючыся ад камеры.

Тэму «прыгожага» працягнула Ганна Клос, якую прадставілі як галоўнага рэдактара часопіса «Паморскі эканамічны аглядальнік». Яна з захапленнем казала пра чыстыя гарады, еўрапейскія дарогі, пра тое, што да 1995-га беларусы жылі ў беднасці, але цяпер ім усё падабаецца...

У Гданьску выдаецца часопіс Pomorski Przegląd Gospodarczy, галоўным рэдактарам якога з’яўляецца Марцін Навіцкі. Іншага часопіса з падобнай назвай і рэдактарам Ганнай Клос у польскім сеціве адшукаць не ўдалося.

### «Прыехаў польскі самвыдат»

Наведалі госці і польскія дамы праўладнага Саюза палякаў. З прадстаўнікамі незалежнага СП, адзначыў гродзенскі журналіст Андрэй Пачобут, калегі з Польшчы не сустракаліся. Пачобут расказаў, што не адшукаў сярод польскіх журналістаў прадстаўніка хоць якога сур’ёзнага выдання. Не было ў складзе групы ні журналістаў рэгіянальнай рэдакцыі Gazety Wyborczej, ні Dziennika Bałtyckiego. Пачобут мяркуе, што ў тур выбраліся прадстаўнікі спецыялізаваных бізнэс-выданняў, якія дзеля выгадных сувязяў у Беларусі могуць заплюшчыць вочы на ўнутрыпалітычную сітуацыю. А таксама прадстаўнікі маргінальных саматужных выданняў, гатовых у любы момант адгукнуцца на прапанову беларускага пасольства.

### Трымалі ў рамках

Дый з тых, хто прыехаў, не ўсе падзялялі мажорны настрой, адлюстраваны ў сюжэтах БТ. Рэпарцёр тэлеканала Twoja Telewizja Morska Конрад Слупа расказаў «НН», як праходзіў тур.

Беларускае консульства ў Гданьску анансавала паездку як падкрэслена апалітычнае мерапрыемства. Усе выдаткі на сябе ўзяў беларускі бок. У часе туру, па словах Конрада, журналістаў «трымалі ў пэўных рамках», яны не маглі самастойна выбіраць маршрут.

Але найбольш яго абурыла тое, што іх візіт выкарысталі ў прапагандысцкіх мэтах. Ад імя свайго тэлеканала ён напісаў ліст у Белтэлерадыёкампанію, у якім выказаў пратэст з гэтай нагоды. Журналіст рыхтуе рэпартаж, з якога стане зразумела, якой ён насамрэч пабачыў Беларусь.

**Сямён Печанко, Алесь Пілецкі**

# Падручнік для пятай калоны або для беларускіх афіцэраў?

**Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» выдала кнігу «Ваенная школа Беларусі: традыцыі і сучаснасць».**




Ваенная школа Беларусі: Традыцыі і сучаснасць. — Мінск: «Беларуская Энцыклапедыя», 2010. 2000 ас.

Яна адрасаваная беларускім афіцэрам і курсантам. Задума добрая, і зробленая важная справа — створаны дакладны летапіс дзейнасці вайсковых вучылішчаў на тэрыторыі Беларусі ў савецкі час.

Аднак Беларусь для аўтараў кнігі — а гэта кіраўнікі вайсковых навучальных установаў — застаецца не нацыяй і не дзяржавай, а тэрыторыяй, акругай Расіі.

Кніга пачынаецца з раздзела «Відныя палкаводцы і дзяржаўныя дзеячы». Хто ў ім, як вы думаеце? Пераможца Грунвальда Вітаўт? Кіраўнік рэйдаў у глыб Брандэнбурга Давыд Гарадзенскі? Аўтар вялікай перамогі малымі сіламі пад Оршай, праваслаўны гетман Канстанцін Астрожскі? Арганізатары партызанскага руху Кастусь Каліноўскі і Пятро Машэраў?

Не. Там Аляксандр Неўскі, Дзмітрый Данской, Сувораў, Кутузаў, Нахімаў, Брусілаў, Жукаў. Сярод іх ніводнага беларуса, ніводнага ўраджэнца Беларусі. Большасць з іх да Беларусі, да земляў яе — ні сном ні духам. Больш за тое, Данской і Сувораў з нашымі продкамі ваявалі. Аўтары кнігі маюць на гэта свой погляд: «Беларускія Узброеныя сілы, абапіраючыся на больш чым 300-гадовы вопыт айчыннай і расійскай ваеннай школы, маюць права лічыць сябе прадаўжальнікамі найбагацейшых традыцый і навучання і выхавання афіцэрскіх кадраў».

Можна было б зразумець, калі б беларускіх афіцэраў скіроўвалі да вопыту разумных палкаводцаў без уліку нацыянальнай прыналежнасці. Тады было б лагічна расказаць пра Эйзенхаўэра ці Пілсудскага побач з Жукавым. Не — там выключна героі расійскай вайсковай славы.

Беларуская дзяржава, паводле версіі кнігі, паўстае ў выніку «беспрэцэдэнтнай па сваіх маштабах і наступствах падзеі найноўшай гісторыі» — распаду СССР.

Гісторыя беларускай вайсковай школы пачынаецца з адкрыцця першых кадэцкіх корпусаў на тэрыторыі Беларусі. Звесткі пра нясвіжскі корпус вялікага гетмана ВКЛ Міхаіла Радзівіла ўціснуліся ў адзін абзац. Затое шклоўскаму корпусу фаварыта Кацярыны II Зорыча адведзены асобны раздзел. Але найбольш гаворыцца пра створаныя за саветамі мінскія ваенныя вучылішчы. З набыццём Беларуссю незалежнасці яны былі рэарганізаваныя ў Ваенную акадэмію.

Сярод аўтараў кнігі — цяперашнія кіраўнікі Ваеннай акадэміі, былыя начальнікі мінскіх вучылішчаў, ідэолагі.

Філосаф Алесь Анціпенка мяркуе, што «Ваенную школу Беларусі» пісалі дылетанты. Ім не адмовіш у патрыятызме. Але сам факт існавання саюза з Расіяй уплывае. «Аўтары кнігі знаходзяцца на паўдарозе да ўсведамлення і прыняцця ўласна беларускай ваеннай гісторыі», — кажа філосаф.

**Сямён Печанко**

# Сайт charter97.org можа спыніць працу

**Зварот Рэдакцыі сайта да чытачоў.**

Пасля разгрому офіса рэдакцыі нашага сайта ў Мінску ў ноч з 19 на 20 снежня мы вымушаныя былі выехаць за межы Беларусі. КДБ канфіскаваў наша абсталяванне. Рэдактар сайта Наталля Радзіна была арыштаваная і праходзіць у якасці абвінавачанай па так званай крымінальнай справе «аб масавых беспарадках».

Цяпер рэдакцыя знаходзіцца ў Вільні і працягвае працу. Тая дапамога, якую нам аказалі нашы сябры, дазволіць нам прафесійна працаваць яшчэ некалькі тыдняў, а затым мы будзем вымушаныя спыніць паўнавартасную працу.

Для паўнавартаснай працы буйнога сайта патрэбныя рэдактары, адміністратары, перакладчыкі, журналісты, памяшканне для працы, абсталяванне, сувязь, арэнда магутнага сервера. Паверце, нашы супрацоўнікі атрымліваюць за сваю самаадданую працу невялікія нават па беларускіх мерках грошы.

На жаль, гучныя заявы еўрапейскіх палітыкаў аб падтрымцы незалежных беларускіх СМІ пакуль застаюцца проста заявамі.

Мы прыкладзём усе сілы для захавання вядучага беларускага незалежнага інфармацыйнага рэсурсу. Мы вядзём перамовы па атрыманні дапамогі ад еўрапейскіх донараў. Аднак для перафарматавання працы трэба час.

Мы вымушаныя звярнуцца да вас, нашых чытачоў, за дапамогай. Каб захаваць рэдакцыю ў гэты складаны момант, нам патрэбныя грошы.

Мы просім вас аказаць нам падтрымку і пералічыць любую прымальную суму на рахунак у сістэме PayPal. Адмысловая кнопка размешчаная зверху ў правай калонцы сайта. Гарантыяй мэтавага выдаткоўвання дапамогі будзе бесперабойная праца.

**Charter97.org** — папулярны інтэрнэт-сайт. Навіны публікуюцца на трох мовах: беларускай, расейскай і англійскай. Штодня сайт наведвае больш за 50 тысяч унікальных карыстальнікаў, а месячная аўдыторыя складае 500 тысяч чалавек. Сайт заснаваны журналістам Алегам Бябенінам у 1998.

# Міхалевіч знайшоўся

Кандыдат у прэзідэнты цяпер знаходзіцца ў лагеры для ўцекачоў у Чэхіі.

Лёс Алеся Міхалевіча пасля паведамлення аб выездзе з краіны працягваў выклікаць непакой. Яго так ніхто і не бачыў. Сам палітык таксама не спяшаўся выходзіць на кантакт з журналістамі.

Некаторыя паспелі ўжо палічыць, што Міхалевіч зноў апынуўся ў СІЗА КДБ, а на сувязь выходзіць з дазволу і па ўказцы спецслужбістаў. У мінулую сераду Міхалевіч даслаў аўдыёзварот.

«Я — Алесь Міхалевіч. Са мной усё добра, я знаходжуся па-за межамі Беларусі. Ведаю, што ў ЖЖ у суполцы байпалітыкс і ў іншых месцах шмат каментароў, што ніхто не чуў мой голас апошнім часам. Сёння я размаўляў з Юрасём Губарэвічам, а на працягу бліжэйшага тыдня я збіраюся зрабіць відэазварот», – было відавочна, што гэты тэкст Міхалевіч зачытваў.

Потым сітуацыю праясніў міністр замежных справаў Чэхіі Карэл Шварцэнберг. Менавіта ён агучыў, што Міхалевіч папрасіў палітычнага прытулку ў Чэхіі і цяпер знаходзіцца ў лагеры для ўцекачоў.

«Я ведаю Алеся Міхалевіча асабіста і ўпэўнены, што Чэхія павінна задаволіць яго просьбу, бо тое адпавядае нашым традыцыям. Спадар Міхалевіч выступае за тыя ж каштоўнасці, што і мы, і я думаю, што варта ўшанаваць яго мужнасць», — зазначыў Шварцэнберг.

Міхалевіч здаўна меў добрыя партнёрскія адносіны з многімі чэшскімі недзяржаўнымі арганізацыямі, а таксама афіцыйнымі асобамі. Невыпадкова, што адразу пасля прызнання аб катаваннях Міхалевічу патэлефанаваў менавіта Карэл Шварцэнберг. Чэшскі міністр тады цікавіўся, што ён можа зрабіць, каб беларускія палітвязні хутчэй апынуліся на волі.

Месцазнаходжанне Міхалевіча ў Празе падштурхоўвае да думкі, што ўцякаў з краіны ён, найхутчэй, праз Расію, з якой няма памежнага кантролю. Відаць, у кандыдата захаваўся стары пашпарт. Часам такое здараецца, што, калі скончаюцца старонкі пад візы, чалавек робіць сабе новы пашпарт, а стары пакідае сабе, бо ў ім застаюцца адкрытымі візы. Імаверна, потым Міхалевіч праз Кіеў вылецеў у Прагу. Па законах Еўрасаюза, уцякач мае права прасіць прытулак толькі ў першай краіне ЕС, мяжу з якой ён перасякае.

Дарэчы, чэшскі бок з мэтаў бяспекі рэкамендаваў Міхалевічу пакуль устрымацца ад кантактаў з прэсай.

Узгадаў Міхалевіча і Аляксандр Лукашэнка, калі меў сустрэчу з рэдактарамі расійскіх СМІ. «Нібыта адзін з экскандыдатаў, які знаходзіўся пад следствам, некуды збег... Няхай бягуць усе. Але яны там не патрэбныя нікому, яны тут патрэбныя», – зазначыў Лукашэнка.

Жонка Алеся, а таксама дзве дачкі застаюцца ў Беларусі. Старэйшая дачка ходзіць у 4-ы клас беларускамоўнай гімназіі, а меншай усяго адзін годзік.

ЗП

# Аляксей Шыдлоўскі: Міхалевіч на каранціне 3-4 тыдні

Пра ўмовы ўтрымання ў чэшскім азылі расказвае Аляксей Шыдлоўскі.

У 2008 годзе ён папрасіў палітычны прытулак у Чэхіі. У лагеры для ўцекачоў ён знаходзіўся двойчы: у лютым (тады ягонае прашэнне аб палітычным прытулку было адхіленае) і ў жніўні.

**«Наша Ніва»: Аляксей, што ўвогуле такое азыль?**

**Аляксей Шыдлоўскі:** Азыль – гэта адмысловая сістэма ўстановаў па ўсёй Чэхіі, якая дазваляе людзям атрымаць прытулак у краіне па палітычных, рэлігійных ці сэксуальных матывах. Я два месяцы знаходзіўся ў азылі ў Вышніх Ільготах. Гэта быў вельмі вялікі лагер. Цяпер яго зачынілі ўвогуле. Чэхія перажывае моцны крызіс, таму колькасць людзей, што едзе ў краіну, змяншаецца. Што датычыць лагера Застаўка Брно, дзе знаходзіцца Міхалевіч, то там я таксама прабыў два тыдні. Умовы ўтрымання прыкладна аднолькавыя. Але Застаўка Брно — кампактны лагер, меншы. Усяго ён разлічаны не больш чым на 100 чалавек.

**«НН»: Якія там умовы пражывання?**

**АШ:** Мяне пасялілі разам з украінцамі. У асноўным пры пасяленні кіруюцца геаграфічным прынцыпам. Паколькі беларусаў было вельмі мала, то і суседзямі сталі ўкраінцы. Часта ў азылях узнікаюць міжэтнічныя і нацыянальныя канфлікты. Нярэдкія бойкі паміж чорнымі і арабамі. Але — гэта толькі ў мужчынскай частцы, калі я быў у сямейнай, то там было абсалютна ціха. У мужчынскай частцы пакоі былі разлічаныя на 4-6 чалавек, у сямейнай, натуральна, я жыў толькі разам з жонкай. На тэрыторыі азыля ёсць крама, табе нават выдаюць нейкія кішэнныя грошы. І кормяць таксама задарма.

**«НН»: Выходзіць з азыля можна?**

**АШ:** Не, першыя тры-чатыры тыдні ты знаходзішся на каранціне. Табе не дазволена мець мабільнік, карыстацца інтэрнэтам. Ёсць толькі адзін тэлефонны аўтамат, які стаіць на тэрыторыі лагера. Вось цяпер Алесь Міхалевіч кажа, што рыхтуе відэазварот, але мне цяжка ўявіць, як ён гэта зробіць. Бо здымаць нешта там строга забаронена. Хаця дамовіцца можна ў любой сітуацыі. Увогуле, азылі — гэта баракі, адміністратыўныя будынкі, калючы дрот, праз які немагчыма пералезці. Умовы мала чым розняцца ад калоніі. Што датычыць Застаўкі Брно, то я там быў на пасяленні адкрытага тыпу. Кожны дзень выходзіў за тэрыторыю азыля. Ён знаходзіцца ў невялікай вёсцы, дакладней, чыгуначнай станцыі, на 200—300 жыхароў. Побач месціцца база БІС – чэшскай спецслужбы. Можна нават сесці на электрычку і з'ездзіць у Брно. Там цудоўная прырода. Ад азыля зусім побач знаходзіцца мястэчка Росіца з прыгожым замкам.

**«НН»: І колькі часу чалавек можа знаходзіцца ў такім лагеры?**

**АШ:** Каранцін доўжыцца 3-4 тыдні. Гэты час цябе правяраюць на розныя хваробы, робяць флюараграфію. Таксама абавязковае інтэрв'ю, чаму ты вырашыў папрасіць аб прытулку. Пасля таго як каранцін скончаецца, то азылянт мае поўнае права з'язджаць у тую ж Прагу, калі мае грошы на жыллё. Яму выдаюць часовы пашпарт. Працаваць з ім нельга, але, вядома ж, усе працуюць. Разам з тым, уцякач мусіць раз на месяц з'яўляцца ў лагер, каб адзначыцца.

**«НН»: Колькі можа заняць працэдура атрымання палітычнага прытулку?**

**АШ:** Да трох гадоў. У маёй сітуацыі гэта заняло чатыры месяцы. Усё залежыць ад канкрэтнага выпадку. Не думаю, што Міхалевіча будуць доўга марынаваць.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

**Аляксей Шыдлоўскі**

Нарадзіўся ў 1978 у Стоўбцах. Навучаўся на журфаку БДУ, але быў адлічаны пасля адміністрацыйнага арышту. У 1997 асуджаны на паўтара года зняволення за палітычныя графіці на будынку Стаўбцоўскага райвыканкама. Тады Шыдлоўскі разам з Вадзімам Лабковічам памянялі чырвона-зялёны сцяг на бел-чырвона-белы. Быў адным з першых палітвязняў пры Лукашэнку. Быў адным з лідараў Маладога фронту, «Зубра». Ад 2008 у эміграцыі ў Празе.

## Вінаградаў з турмы: Аддаў бы мезенец на назе, каб трапіць на Дзень Волі

Удзельнік выбарчага штаба Уладзіміра Някляева Павел Вінаградаў даслаў з турмы ліст актывістцы кампаніі "Еўрапейская Беларусь" Паліне Дзякавай.

«Паша кінуў паліць на Валадарцы. А яшчэ гатовы аддаць мезенец на левай назе, каб пайсці на Дзень Волі. Увогуле, Пашка трымаецца малайцом. Перадае ўсім знаёмым прывітанне», — кажа П.Дзякава.

Павел Вінаградаў быў затрыманы 5 студзеня на кватэры ў Мінску. Кадэбісты забралі яго на допыт, з якога Вінаградаў так і не вярнуўся. Потым на БТ дэманстраваліся кадры, як Вінаградаў ледзьве не ў твар смяецца следчым. У турме Вінаградаў не згубіў пачуцця гумару і сілы духу.

ЗП

# Маці палітвязняў маліліся ля Валадаркі

Тры дзясяткі мамаў і сясцёр палітвязняў сабраліся ў цэнтры Мінска.



Юлія Дарашкевіч

Яны прайшлі са свечкамі ад Свята-Духавага сабора да Валадаркі, а ад турмы — да Чырвонага касцёла. На плячах у іх былі бел-чырвона-белыя шалікі.

# Тамашоўка: вясковы рай на радзіме Пракаповіча

Працяг са старонкі 2.

## Касмічная вёска

Тамашоўка жыла нябедна яшчэ пры саветах. Тры палёты ў космас Клімука прывялі ў вёску турыстаў. Цэнтральную вуліцу сімвалічна назвалі ў гонар Гагарына, стварылі ў тутэйшай школе музей касманаўтыкі. Музей уключылі ва ўсесаюзны турыстычны маршрут, яго наведалі агулам больш за 700 тысяч чалавек з усяго Савецкага Саюза!

Знік саюз — закрыўся і музей. Згарэў рэстаран, апусцеў састарэлы гатэль... Тамашоўка атрымала ўсе перадумовы для таго, каб пераўтварыцца ў вёску кантрабандыстаў на мяжу. Але лёс зрабіў інačай.

Як выглядае Тамашоўка цяпер? Шыкоўна! Двухпавярховыя «аграгарадоцкія» катэджы, пафарбаваныя ў някідкія колеры, школа будучыні, абсталяваная па апошнім слове прагрэсу, трохпавярховы аздараўленчы цэнтр... Шыраченны пусты бульвар, заліты раўнюткім асфальтам з акуратнай дарожнай разметкай, брукаваныя дробнай пліткай тратуары — проста Мінск у мініяцюры!

На тэрыторыі сельсавета ёсць два дзіцячыя садкі, і абодва — нетыпова для вёскі — цалкам укамплектаваныя дзецьмі. Па 90 чалавек у кожным. Тамашоўка, як і сталіца, сутыкнулася з натуральным прыростам насельніцтва. Колькасць першакласнікаў цяпер большая за колькасць выпускнікоў.

## Братэрскае спонсарства

Тамашоўская школа выглядае нават лепш за Астрашыцкую ў Мінскім раёне, якую дабудоўваюць па лукашэнкаўскім загадзе для Колевай перспектывы. У кожным класе — мультымедыйная ўстаноўка. Свой зімовы сад з рэдкімі раслінамі. Тут і аднаўлены музей касманаўтыкі. Некалькі гадоў таму злодзеі вынеслі самы каштоўны экспанат — арыгінальны скафандр Клімука. На чорным рынку кошт такой рэчы даходзіць да дзесяці тысяч даляраў!

Каля школы — спартыўны комплекс «Зорны». Побач з ім футбольны стадыён, пакрыты сінтэтычным нямецкім пакрыццём. Адкрывалі стадыён дарагія госці — Пракаповіч і брэсцкі абласны начальнік Сумар. Тамашоўцы з гонарам расказваюць, што ўсе будаўнічыя працы выконвалі нанятыя спецыялісты з Германіі. Тэнісныя корты, два басейны, лыжаролерная траса і яшчэ, яшчэ...

Гэта не раскоша — гэта таксама бізнэс. Спартцэнтр масава арандуюць спартоўцы для збораў.

І ва ўсяго гэтага ёсць два галоўныя спонсары: Нацбанк і ААТ «Камароўка», названае ў гонар суседняй вёскі. Былы калгас імя Дзяржынскага цяпер ганарова называецца адкрытым акцыянерным таварыствам. ААТ «Камароўка» — адно з 14 прадпрыемстваў, разам з лукашэнкаўскай «Александрыяй», якія апошнія гады фінансуюцца Нацбанкам. Усе гэтыя калгасы ўваходзяць у склад «Агракамбіната «Мачулішчы», акцыямі якога валодае галоўны банк краіны. Праўда, па патрабаванні Міжнароднага валютнага фонду цяпер для «Мачулішчаў» шукаюць новага ўласніка.

Дарэчы, старшынёй «Камароўкі» з'яўляецца Васіль Пятровіч... Пракаповіч. Для супакаення чытачоў заўважым, што Васіль кіруе калгасам яшчэ з пачатку 1990-х, да прыходу брата Пятра да вялікай улады.

## Негаваркія сваякі

У Тамашоўцы Пракаповіча ведаюць усе — і малыя, і старыя. Мясцовыя жыхары хутка растлумачылі, дзе цяпер жывуць сваякі галоўнага банкіра краіны. Высветлілася, што брат Леанід займае кватэру ў панэльным двухпавярховым доміку на цэнтральнай вуліцы вёскі. Такія дамы будавалі яшчэ за саветамі. Праўда, цяпер зрабілі добры рамонт. Брата Леаніда на месцы не аказалася. Разам з усёй сям'ёй ён адправіўся на канцэрт «Кабарэ-шоу». Музыкаў прывезлі для тамашоўцаў да свята 8 Сакавіка. У вялікай зале сельскага савета, напоўненай гледачамі, сваяка Пракаповіча мы так і не адшукалі. Разам з усёй сям'ёй ён пад вечар з'явіўся дома. Дзіўна толькі, што ў двор сям'я пакрочыла абхадным шляхам. Відаць, папярэдзілі суседзі пра журналістаў. Пагутарыць у той дзень з Леанідам Пятровічам так і не ўдалося. Брат старшыні Нацбанка нават не падышоў да дзвярэй — уніз спусціліся два ягоныя сыны-«перамоўшчыкі», якія растлумачылі, што такія размовы «некарэктныя», і прадыктавалі тэлефонны нумар, па якім можна звязацца з бацькам. Нумар аказаўся нядзейным. Але мы знайшлі і сапраўдны тэлефон, угаварылі Леаніда Пракаповіча адказаць на некалькі пытанняў.

Як паставілася да геройскага звання брата сям'я Пракаповічаў і як адрэагаваў сам Пятро? «Ён атрымаў гэтае званне, бо ўсё жыццё сумленна працаваў. Таму ўспрыняў навіну спакойна і сціпла. Я яго адразу ж павіншаваў. І больш мы да гэтай тэмы не вярталіся ніколі», — кажа Леанід. Сам ён працуе ў транспартнай інспекцыі, але пра сваю пасаду паведамляць катэгарычна адмовіўся — «раптам гэта будзе няправільна ўспрынята кіраўніцтвам нашай структуры?»

## Будаўнічы бум

Кіраўнік калгаса Васіль Пракаповіч аказаўся больш гаваркім.

«Бацька наш працаваў у спажывецкай кааперацыі, а маці была хатняй гаспадыняй. У нас вялікая сям'я — чатыры браты і сястра. Сястра жыве ў Мінску, а раней працавала галоўным бухгалтарам «Мінскпраекта». Яшчэ адзін брат — ляснічы». Будаўнік-банкір Пётр сярод братоў старэйшы.

Тамашоўскія гатэль і рэстаран належаць «Камароўцы». Наколькі яны акупляюцца? «У гатэлі няма вольных месцаў! — пераконвае Васіль Пракаповіч. — Яны занятыя спартоўцамі, якія прыязджаюць на зборы. І баскетбалісты, і валейбалісты, і футбалісты... На днях чакаем мінскае «Дынама», дарэчы. Часта завітваюць і расіяне. Таксама ў гатэлі жывуць будаўнікі, якія працуюць на тамашоўскіх аб'ектах».

Дарэчы, гатэль нятанны — па 40 тысяч рублёў з чалавека за ноч. Турыстаў уражвае выгляд трохпавярховага аздараўленчага цэнтра, будоўля якога ўжо сканчаецца. Аказваецца, гэта будзе другі корпус гатэля. «Там будуць саўна і трэнажорны зал, а ўверсе — жылыя нумары, — расказвае Васіль. — Будоўля вядзецца за кошт крэдытных грошай».

## Уздымальнік Цаліны

Крэдыты бяруцца Тамашоўкай цяпер. А раней хапала дапамогі з Мінска. Напрыклад, на пачатак мінулага года ўкладанні Нацбанка ў падшэфныя калгасы перавышалі $600 мільёнаў!

На гэтай аптымістычнай ноце самы час звярнуцца да асобы самога Пятра Пракаповіча.

Ён быў сябрам Клімука са школьных часоў — два Пятры нават сядзелі за аднной партай. Цікава, што Пракаповіч вучыўся ў школе сярэдне, аднак па гісторыі СССР меў «выдатна». Ён дачакаўся свайго зорнага часу нашмат пазней за свайго прыяцеля. Калі ў пачатку 1970-х гадоў Клімук рыхтаваўся да палёту з казахстанскага Байканура, Пракаповіч працаваў непадалёку. Праўда, пасады былі не такімі прэстыжнымі — будаўнік, прараб, а пасля інжынер будаўнічага трэста ў Цалінаградзе... Зрэшты, і будаўнічай адукацыі ў будучага банкіра магло б не быць. Пятро разам з аднакласнікам паехаў паступаць у горнапрамысловую школу ў Валгадон, але не прайшоў адбору па стане здароўя. Давялося вучыцца ў днепрапятроўскім інстытуце. Як выявілася, такой адукацыі ў Беларусі дастаткова, каб узначаліць галоўны банк краіны і нават атрымаць за сваю дзейнасць званне героя.



Паспрабуй абвядзі! Пракаповіч і брэсцкі губернатар Сумар на адкрыцці тамашоўскага спарткомплексу.

У сталіцу Пракаповіч пераехаў з Брэста, дзе быў галоўным дырэктарам «Брэстаблсельбуда». Двухгадовая пабыўка на пасадзе намесніка старшыні Адміністрацыі прэзідэнта — і перакідванне ў Нацыянальны банк, дзе Пётр працуе нязменна ўжо 13 гадоў. За гэты час ён перажыў і шалёную інфляцыю, і дэвальвацыю, за якую брэсцкага «банкіра» ўзненавідзела частка насельніцтва краіны, і «выпадковыя» агаворкі Лукашэнкі, які называў Пракаповіча старшынёй урада.

69-гадовы герой Беларусі жыве ў катэджы ў Драздах разам з жонкай, мае дачку, сына і ўнукаў. Каб трымацца ў тонусе, банкір кожны дзень праходзіць пехам дзесяць кіламетраў. А вось на малую радзіму прыязджае рэдка. «Толькі па працы. Чатыры-пяць разоў на год», —удакладняе Васіль Пракаповіч.

## «Не так хутка. І не ў такіх маштабах»

Асноўнае пытанне, якое з'яўляецца ў кожнага наведніка вёскі — ці справядліва тое, што яны бачаць? Шыкаванне Тамашоўкі выглядае паказальным пацёмкінскім раем на фоне заняпаду і вымірання многіх беларускіх вёсак.

Чаму мясцовыя жыхары атрымліваюць такія ўмовы, пра якія мільёны іншых беларусаў толькі мараць? Васіль Пракаповіч пераконвае, што актыўнае будаўніцтва вядзецца і ў суседніх вёсках (Камароўка, Дамачава) і Тамашоўцы пашанцавала не больш за астатніх. Але чамусьці ў Беларусі занадта часта здараецца, што росквіт населенага пункта магчымы тады, калі хтосьці з ураджэнцаў выбіўся на высокую пасаду. Ці можна было дасягнуць такога росквіту без падтрымкі Нацбанку? «Можна, — упэўнены Васіль Пракаповіч. — Але не так хутка і не ў такіх маштабах».



Перажытак савецкай гігантаманіі. Нашто вёсцы неабдымная, а таму няўтульная Цэнтральная плошча?




У вёсцы будуюць новы аздараўленчы цэнтр.



Хоць калгас і мільярдэр, але на бензіне эканоміць.

Ён дадае, што выратаваць беларускую вёску можа толькі стварэнне новых працоўных месцаў. «У нашу Тамашоўку сёння прыязджаюць працаваць нават з Брэста, кожны дзень атобус прывозіць 20 супрацоўнікаў. Я ўжо не кажу пра суседнія вёскі! Ёсць і замежныя работнікі. Актыўна прыязджаюць з Украіны, маем спецыялістаў з Казахстана. Пад маім наглядам сёння 6 тысяч чалавек. Мы здолелі зрабіць прадпрыемства прыбытковым і спыняцца не збіраемся», — сцвярджае брат Пятра Пракаповіча.

**Яўген Васількоў, Адар'я Гуштын, Мінск—Тамашоўка—Мінск**

# Неймаверная Амерыка

## II. Сацыялістычная рэспубліка Сіэтл

Працяг нататак **Змітра Панкаўца** са Злучаных Штатаў.



Сіэтл у прыцемку выглядае незямным горадам.

### Пацешны Ільіч

У Сіэтле, як і ў Мінску, стаіць помнік Уладзіміру Леніну. Пяціметровы Ільіч прарываецца праз полымя і войны да светлай будучыні.

На ўзбярэжжа Ціхага акіяна Ленін трапіў са славацкага горада Папрад. Там яго толькі паспелі ўсталяваць у 1988-м, а праз год адбылася аксамітная рэвалюцыя. І ўсе помнікі правадыру рэвалюцыі чырвонай з чэхаславацкіх вуліц пачалі знікаць.

Фактычна са сметніцы Леніна дастаў настаўнік англійскай мовы Льюіс Карпентэр. Ён угаварыў мэра Папрада прадаць яму гэты помнік за 11 тысяч даляраў. Пераправа праз акіян каштавала ў тры разы болей. Прадпрымальны Карпентэр спрабаваў прадаць у Штатах гэты помнік за 150 тысяч, але так і не паспеў — загінуў у аўтакатастрофе. Славацкі Ільіч перайшоў як падарунак да бунтоўнага сіэтлаўскага раёна Фрэмонт.

Гэта раён творчай багемы, вольных мастакоў, паэтаў, хіпі, геяў. Некалі тамтэйшыя жыхары выступалі з паўсур'ёзнай ініцыятывай абвясціць незалежнасць Фрэмонта. Хоць дабіцца гэтага і не атрымалася фармальна, але фрэмонтцы жывуць сваім паўаўтаномным багемным жыццём.

За колькі кварталаў ад Леніна знаходзіцца мост (якая іронія!) «Аўрора». Ён абнесены высачэзнымі агароджамі. Справа ў тым, што «Аўрора» — другі па папулярнасці сярод самагубцаў мост у ЗША. Больш суіцыдаў здараецца толькі на «Залатых варотах» у Сан-Францыска.



У Сіэтле на вуліцах часта можна пабачыць здаравезныя індзейскія татэмы.

Не ведаю, можа, прычынай такой сумнай статыстыкі з'яўляецца гіганцкі троль, што сядзіць пад «Аўрорай». Так выйшла, што тэрыторыя пад мостам пачала ператварацца ў сметніцу і месца, дзе гандлявалі наркотыкамі. Каб перапыніць такую тэндэнцыю, абвясцілі конкурс па добраўпарадкаванні.

Выйграў праект скульптуры троля з бетона, сталі і тросаў. У троля бачна толькі адно вока, а ў адной з рук ён трымае «фальксваген-жук». Суседнюю вуліцу нават назвалі троль-авеню.

Увогуле, Фрэмонт — гэта раён самых розных арт-аб'ектаў і помнікаў. Тут жа стаіць скульптурная кампазіцыя «У чаканні электрычкі». Шэсць чалавек і сабака чакаюць электрычку ў тым месцы, дзе яна ўжо даўно не ходзіць. У сабакі, дарэчы, чалавечы твар. Кажуць, што тагачаснага мэра Сіэтла.

Людзі ў Фрэмонце жывуць вясёлыя. У гэтым можна пераканацца хаця б па таму самаму Ільічу. Леніна часта пераапранаюць то ў трансвесціцкае ўбранне, то ў Джона Ленана, то зорку чырвоную альбо Давыда прыробяць да галавы. Карацей, пацешны тут Ленін. Незабранзавелы, як у нас.

### Конская задніца

Насельніцтва Сіэтла вельмі адукаванае. Калі ў сярэднім у Штатах вышэйшую адукацыю атрымлівае толькі 15% жыхароў, то ў адміністрацыйным цэнтры штата Вашынгтон запаветны дыплом мае аж 51%. Гэта вельмі добры паказчык.

Тут вялікая інтэрнэтызаванасць грамадства. Мясцовая журналістыка ў сувязі з гэтым сутыкаецца зусім з новымі праблемамі і выклікамі. Да нядаўняга часу ў Сіэтле былі дзве гарадскія штодзённыя газеты. Адна з іх збанкрутавала, другая таксама ўсё болей глядзіць у бок інтэрнэту.

І, вядома, папулярнасць набіраюць блогі. Асабліва блогі пэўных раёнаў горада. На наш капыл, скажам, як блог Серабранкі. Туды ідуць усе навіны жыцця гэтага раёна. На блогах зусім не абавязкова працуюць прафесійныя журналісты, іх мова таксама адрозніваецца ад газетнай большай разнявоЛенасцю. Пры невялікай раскрутцы на такіх сайтах пачынае з'яўляецца рэклама, і гэта дазваляе ўтрымліваць невялікі штат.

Часам блогеры ператвараюцца ва ўплывовых і паважаных людзей. Так атрымалася з Дэвідам Голдстэйнам. З ім мы сустракаліся ў рэдакцыі ліберальнай газеты Stranger. У памяшканні моцна напалена, не здзіўлюся, калі не толькі цыгарэтамі. Stranger збірае пад сваім дахам найбольш моцных і цікавых блогераў штата. Газета мае левы ўхіл, выходзіць раз у тыдзень. Там няма навін. У асноўным абсалютна суб'ектыўныя меркаванні, падарожжы, коміксы.

Дык вось пра Голдстэйна. У 2003 годзе ён ініцыяваў паўжартоўную кампанію з мэтай абвясціць мясцовага кансерватыўнага палітыка Ціма Аймана «конскай задніцай». Для гэтага Голдстэйн нават сабраў аргкамітэт па зборы подпісаў. Патрабавалася сабраць 100 тысяч подпісаў, каб справу аб «конскай задніцы» маглі разгледзець як законапраект. Голдстэйн кажа, што такім чынам ён проста спрабаваў давесці абсурднасць заканадаўства.



**Сіэтл**

(англ. Seattle, засн. 1851) — найбуйнейшы горад на паўночным захадзе ЗША і ў штаце Вашынгтон. У горадзе жыве 592 800 чалавек, а ва ўсёй метраполіі 3 424 441.

Буйны марскі порт, база кампаній «Боінг» і «Мікрасофт». Адна з культурных сталіц заходняга ўзбярэжжа. Радзіма стылю «гранж» і Курта Кабэйна. Таксама з Сіэтлам звязаныя імёны такіх вядомых людзей, як Джымі Хендрыкс, Біл Гейтс, Брус Лі і іншыя.

Пасля гэтай гісторыі ягоны блог «Конская задніца» імкліва стаў набіраць рэйтынг і зрабіўся ці не самым папулярным палітычным блогам штата Вашынгтон.

Голдстэйн — цяпер нярэдкі госць і на федэральных тэлевізійных каналах. Дэвід з гонарам расказвае, што яго да сябе на шоу запрашаў найпапулярнейшы кансерватыўны вядучы Біл О'Райлі. «Відаць, выставіць з мяне дурня не ўдалося, калі болей не запрашаў», — смяецца Дэвід.

### Выратуй краба

Цікава, што менавіта ў Сіэтле дзейнічала ці не адзінае паспяховае савецка-амерыканскае сумеснае прадпрыемства. Супольна лавілі рыбу. На Алясцы і Чукотцы.

Рыба — гэта асобная старонка з жыцця Сіэтла. Нават на дваццаціпяціцэнтавіку з выявай штата Вашынгтон намаляваны ласось. У Сіэтле амаль паўгода можна назіраць міграцыю розных відаў ласося. Яго лоўля — гэта тут народная забава. Мне вось не пашанцавала — у дні прысутнасці ў Сіэтле ласося ў мясцовых азёрах і каналах не было.

А яшчэ тут шмат офісаў розных недзяржаўных арганізацый, кшталту «Абаронім разам каралеўскага краба з Аляскі».

Адной з галоўных славутасцяў Сіэтла ёсць іхні рынак «Пайк плэйс маркет». Крыты рынак знаходзіцца на самым узбярэжжы заліва Эліят. Гэтаму базару ўжо больш за сотню гадоў. Ён адзін з найбольшых у ЗША. Рынак шасціўзроўневы. Толькі адзін паверх над паверхняй зямлі.

Тут можна знайсці ўсё — ад старых коміксаў да экзатычных паўднёвых фруктаў. Але асабліваё месца тут займаюць, безумоўна, рыба і морапрадукты. Гіганцкія крабы, крэветкі, малюскі. І яшчэ дзясяткі ніколі нябачаных рыб і пачвар марскіх. Людзі найчасцей ходзяць на рынак як на экскурсію. Кажуць, у крамах усё адно танней.

Тым не менш, гандляры, як сапраўдныя шоумэны, заводзяць публіку. Бярэ здаравенную рыбіну і прапаноўвае, як на аўкцыёне, стартавую цану ў адзін даляр. Людзі следам таксама запальваюцца. Абарочваюся да гандляра, а мне проста ў твар ляціць немалая рыбіна. Не ведаю, як той самы прадавец ухітраецца злавіць за хвост рыбіну іншай рукой. Атмасфера базарнага жыцця Сіэтла зачароўвае.

А насупраць рынку, дарэчы, размешчаны першы ў свеце «Старбакс». Яго ў 1971 годзе адчынілі мясцовыя пісьменнік і настаўнік гісторыі. На лагатыпе яны змясцілі выяву сірэны. Яны проста хацелі варыць добрую каву. І кава ад «Старбакса» так спадабалася сіэтлаўцам, што сёння гэтая сетка мае 17 тысяч кавярняў у больш чым паўсотні краін свету.

### Індзейцы, скандынавы, азіяты

Сіэтл атрымаў назву ад правадыра плямён суквоміш і дувуміш Сіатля. У сярэдзіне 1800-х гадоў ён завёў сяброўства з белымі перасяленцамі. І менавіта Сіатль заклікаў індзейцаў саступіць свае землі белым. Лекар Мэйнард пераканаў жыхароў гарадка Дуомпс перайменаваць паселішча ў гонар правадыра.

Дачка Сіатля Кікісоблу стала адной з найбольш вядомых жыхарак пазнейшага Сіэтла. Яна адмовілася перасяляцца ў рэзервацыю. Яе хаціна стаяла на перасячэнні дзвюх буйных вуліц Сіэтла. Яна мела невялікую крамку, дзе гандлявала сваімі вырабамі. Жыхары горада называлі яе прынцэсай Анджалінай. Сёння ў гонар яе названа некалькі гарадскіх вуліц. Увогуле ж, у Сіэтле на вуліцах часта можна пабачыць здаравезныя індзейскія татэмы.

Што да нацыянальнага складу жыхароў Сіэтла, то за дзень тут можна нават і не пабачыць чорнага. Затое тут ёсць свой скандынаўскі раён Балард. Аднак не нашчадкі вікінгаў, а азіяты складаюць абсалютную большасць сіэтлаўскіх мігрантаў.

Усё ж Кітай, Японія, Філіпіны і Сіэтл месцяцца ў адным ціхаакіянскім рэгіёне. Найбольш тут філіпінцаў. Пасля Другой сусветнай вайны філіпінцы маглі вольна атрымліваць амерыканскае грамадзянства. Шмат хто гэтым карыстаўся. Менавіта філіпінцы займаліся рыбнай прамысловасцю. Ёсць у Сіэтле свой «чайнатаўн», а таксама «маленькі Сайгон».

Выходзіць некалькі азіяцкіх гарадскіх газет. Рэдактарка Seattle Chinese Post Асунта Нг валодае пяціпавярховым домам у самым цэнтры Сіэтла. Рэдакцыі двух выданняў знаходзяцца на першым паверсе. Астатнія памяшканні здаюцца пад офісы.

Асунта кажа, што кітайская грамада Сіэтла падзяляецца на два лагеры. Тых, хто за прызнанне Тайваня, і тых, хто рашуча супраць. Яна кожны год вольна атрымлівае кітайскую візу. Кажа, што толькі не пазначае прафесіі «журналіст». Бо ў такім выпадку службы бяспекі тэлефануюць круглыя суткі, каб даведацца, што яна будзе пісаць пра Кітай. «Няўжо Вы думаеце, што яны не ведаюць, кім Вы працуеце насамрэч?» — пытаемся мы. «У іх доўгія рукі, але не настолькі», — упэўнена адказвае Асунта. Жанчына кажа, што яе дзеці ўжо больш усведамляюць сябе амерыканцамі, чым кітайцамі.

### Суботнік імя Курта Кабэйна

Што датычыць беларусаў у Сіэтле, то такія таксама ёсць. Яны дзеляцца на некалькі тыпаў. Так званая «кілбасная эміграцыя» — гэта тыя, хто прыехаў сюды працаваць на «Майкрасофт» ці іншыя гіганты, каб зарабіць добрыя грошы.

Беларусаў такіх не сустракаў, а вось падчас пералёту з Даласа сядзеў побач у самалёце з жанчынай з Казані. У яе на «Майкрасофце» ўжо сем гадоў працуе дачка. Маці матляецца па паўгода паміж Сіэтлам і Казанню. Кажа, што ўнучкі амаль не размаўляюць па-расійску. Праца напружаная, але за гэты час дачка ўжо назбірала сабе на дом. Вось толькі не можа выбраць паміж Сіэтлам і Лос-Анджэлесам.

Другую вялікую частку складае эміграцыя рэлігійная. У Сіэтл едуць беларускія пратэстанты. У іх працуе ўзаемавыручка. З'язджае адзін і спрабуе перацягнуць за сабой астатніх.



Ільіч з Фэрмонта. Часам яго тут пераапранаюць трансвестытам.




Ласось у Сіэтле — як бульба ў Беларусі.



Хтосьці крабаў бароніць, але большасць есць.



Троль пад фатальным мостам «Аўрора».

Ёсць і такія, што засталіся ў ЗША, калі ездзілі студэнтамі на заробкі ў Штаты. Потым атрымалі тут адукацыю. Многіх занясло ветрам менавіта ў Сіэтл.

Калі ўжо ўзгадаў пра «Майкрасофт», то гэтая кампанія цалкам сплачвае за жыхароў штата Вашынгтон федэральны падатак. Пра асабняк Біла Гейтса на беразе возера Вашынгтон мясцовыя расказваюць самыя розныя легенды. І цяжка адрозніць, што тут праўда, а што мана.

Таксама ў Сіэтле месціцца штаб-кватэра найбуйнейшай інтэрнэт-крамы amazon.com, а таксама цэхі па зборцы «Боінгаў».

Ну і вядома, нельга забываць, што Сіэтл размешчаны ў фантастычна прыгожых мясцінах. На краявідзь з гарамі, вулканамі, акіянам можна глядзець вельмі доўга. Праўда, вывяржэнне вулкана Рэйнера мясцовыя баяцца. Хоць апошні раз ён і прачынаўся ў канцы XIX стагоддзя. У выпадку вывяржэння магчымае страшнае для Сіэтла цунамі.

Надвор'е тут стабільнае амаль на працягу ўсяго года. Тут не бывае моцнай спёкі, але і холаду. Яшчэ ў Сіэтле частыя дажджы і вятры. Сімвал горада — парасон, які зносіцца ветрам.

Калі ўспамінаць пра славутых ураджэнцаў Сіэтла, то адсюль быў культавы музыка Курт Кабэйн, лідар гурта «Нірвана». Так атрымалася, што я быў у Сіэтле праз пару дзён пасля дня нараджэння Кабэйна. Верныя фанаты ў той дзень традыцыйна прыбралі парк, які размяшчаецца побач з домам музыкі. Нават у гэтым ёсць нешта ад звыклых нам сацыялістычных суботнікаў.

**Сіэтл — Мінск**

# Гісторыя Беларусі. Частка XVI. Хрост: моўны пераварот

Піша **Алег Дзярновіч**.

**Працяг. Пачатак у № 26, 28, 30, 39, 47 за 2009 год, № 7, 22, 27, 29, 34, 39 за 2010 год. № 6, 8.**

Уявіце маштаб пераўтварэнняў у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе ў IX—X стст. Узнікненне дзяржавы, прынясце хрысціянства і пашырэнне пісьменства пераўзыходзіць па сваёй фундаментальнасці сацыяльныя трансфармацыі XX ст.

Калі пастваражская эліта Русі ўсвядоміла патрэбу прыняць хрысціянства і звярнулася да Візантыі, там ужо меліся мадэлі культурнай адаптацыі паўночных варвараў. Найперш — духоўная спадчына братоў Кірылы і Мяфода, якія пашыралі хрысціянскае вучэнне па-славянску на Сярэднім Дунаі — у Вялікамараўскай дзяржаве.



Кірыл і Мяфод перакладаюць кнігі на славянскую мову. Мініяцюра з Радзівілаўскага летапісу (XV ст.).

## Салунскія браты

Будучыя славянскія асветнікі нарадзіліся ў візантыйскім горадзе Салунь (цяпер Салонікі ў Грэцыі), які знаходзіцца ў гістарычнай Македоніі. Кірыла быў наймалодшым з сямі братоў (нарадзіўся ў 827), а Мяфод — найстарэйшым (нарадзіўся ў 815). У царкоўнай традыцыі іх імёны мяняюць месцамі, кажучы пра «Мяфода і Кірыла». Гэта царкоўныя імёны, а ад нараджэння яны зваліся Канстанцінам і Міхаілам.

Наконт іх этнічнага паходжання пэўнасці няма. Насельніцтва Салуні і яго ваколіц да IX ст. было мяшаным — грэка-славянскім, таму знаёмства са славянскімі гаворкамі для любога яго жыхара было непазбежным. Бацька братоў быў вайскоўцам невысокага рангу (друнгарыем — камандзірам часткі эскадрона), і сталенне будучых асветнікаў адбывалася сярод сярэдніх сацыяльных пластоў Салуні. Хоць у далейшым яны ўвайшлі ў інтэлектуальную і царкоўную эліту Візантыі.

У пісьмовых крыніцах этнічнае паходжанне Кірыла і Мяфода наўпрост не ўказваецца. Для балгарскай традыцыі славянскія асветнікі — безумоўна, балгары. Але што такое балгары ў IX ст.? Першае Балгарскае царства было шматэтнічнаю дзяржавай, дзе будучы славянамоўны народ фармаваўся на аснове сімбіёзу славянскага насельніцтва, прышлых цюркамоўных булгараў (так званых «протабалгараў») і мясцовага фракійскага (індаеўрапейскага) насельніцтва. Найбольш сярод спецыялістаў пашыраная версія, што Кірыла і Мяфод былі грэкамі. У любым выпадку, яны былі грэкамоўнымі візантыйцамі.

Мы надаём такую ўвагу паходжанню асветнікаў, бо гэта дапаможа зразумець, якую мову яны сканструявалі. А складанне славянскага алфавіта і пераклад Евангелля на славянскую мову Канстанцін пачаў яшчэ ў Салуні, да сваёй місіі ў славянскіх дзяржавах.

## Што гэта за мова?

Мова, створаная Кірылам і Мяфодам, якая так паўплывала на этнакультурнае развіццё народаў Цэнтральнай, Паўднёва-Усходняй і Усходняй Еўропы, у навуковай традыцыі атрымала назву «стараславянскай». Самі ж салунскія браты называлі яе «славенскай».



Вялікая Маравія. Тут славянская мова стала сакральнай.

Як любая літаратурная мова, стараславянская была сканструяваная на базе рэальнага моўнага матэрыялу. Лічыцца, што ў яе аснове ляжаць македонскія гаворкі старажытнабалгарскай мовы, гэта значыць гаворкі славянаў, што жылі вакол Салуні.

Але спыніцца на гэтай канстатацыі — значыць застацца на ўзроўні ведаў XIX ст. Як адзначаюць сучасныя даследаванні, мова старажытнага славянскага пісьменства ад пачатку не была тоеснай ніводнай з тагачасных славянскіх моў або дыялектаў у іх «чыстым» выглядзе. Яна, па сутнасці, мела агульнаславянскі і надславянскі характар, была штучнай.

У аснове сваёй блізкая да салунска-македонскага дыялекту, стараславянская мова ўключала ў сябе мараўскія (заходнеславянскія) і панонскія (славенскія) элементы, а таксама словы, якія ў той час не існавалі ні ў адной са славянскіх моў. Гэта былі транслітараваныя (перададзеныя славянскім алфавітам) словы грэцкага паходжання, а таксама засвоеныя ў свой час грэцкай мовай гебраізмы і лацінізмы. А для граматычнага ўпарадкавання новай мовы былі выкарыстаныя грэцкія граматычныя лякалы.

Стваральнікі стараславянскай мовы існавалі ў грэцкай моўнай прасторы, але добра ведалі славянскія гаворкі. Гэтыя моўныя рэаліі ўвасобіліся ў адным афонскім паданні, паводле якога бацькам асветнікаў быў балгарын, а маці — грачанка.

## Прыдумалі словы, якіх не было

Стварэнне стараславянскай мовы стала вялікім культурным і лінгвістычным дасягненнем — гутарковыя формы былі апрацаваныя, падпалі пад граматычную элінізацыю і ў выніку быў створаны высокі стыль літаратурнай мовы, прыдатны для перакладу Евангелля. Гэта быў каласальны скачок — ад размоўнай лексікі да абстрактных паняццяў. Але стараславянская мова не была роднай ні для якога славянскага народа. Наадварот, яна ўплывала на культурныя трансфармацыі славян і нават на славянізацыю цэлых рэгіёнаў Еўропы, сама падпадаючы пад уздзеянне мясцовых моўных з’яў.

Унікальнасць стараславянскай мовы яшчэ і ў тым, што мы ведаем імёны яе стваральнікаў.

Наступствы з’яўлення стараславянскай мовы ацэньваюцца па-рознаму. У Балгарыі Кірыл і Мяфод — культавыя фігуры; у Беларусі і ва Украіне — глыбока шанаваныя. Бадай, толькі ў Расіі існуе ўплывовая скептычная плынь гуманістыкі, якая разважае над праблемамі ізаляцыянізму. Паводле меркавання прадстаўнікоў гэтай школы, славяне, атрымаўшы сакральнае пісьменства на іншай, чым грэцкая ці лацінская, мове, страцілі прамую сувязь з універсальнымі еўрапейскімі традыцыямі.

Пачатковы ж этап функцыянавання стараславянскай мовы звязаны з заходнеславянскімі абшарамі.

## Вялікая Маравія

У 822—907 гг. на Сярэднім Дунаі існавала славянская дзяржава Вялікая Маравія, якая ў часы росквіту ахоплівала тэрыторыі сучасных Чэхіі, Славакіі, Венгрыі, а таксама Сілезію. А ў 906 г. у Панонскія стэпы прыйшлі, ратуючыся ад печанегаў, венгерскія плямёны. У 907 г. у бітве пад Прэсбургам (Браціславай) мадзяры разбілі славянскае войска і Вялікамараўская дзяржава перастала існаваць.

Сёння рэгіён Маравы, ядро старажытнай дзяржавы, займае ўсходнюю частку Чэхіі, а сучасныя мараване складаюць асобную субэтнічную групу чэхаў. Мараване ж IX ст. былі продкамі як чэхаў, так і славакаў. Назва народа, дзяржавы і рэгіёна, імаверна, паходзіць ад наймення ракі Маравы — левага прытока Дуная.

Этнічная гісторыя гэтай часткі Еўропы была стракатай. Спачатку гэта была тэрыторыя кельцкіх, потым германскіх плямён. А славянская дзяржава ўзнікла тут на руінах Аварскага каганата, разгромленага франкамі ў пачатку IX ст. Таму дзяржава славянаў знаходзілася пад моцным палітычным і культурным уплывам дзяржавы франкаў (Каралінгскай імперыі).

У 831 г., у часы ўладарання князя Майміра I, мараване былі ахрышчаныя паводле заходняга абраду місіянерамі з Баварыі. Але ўжо ў сярэдзіне IX ст. адносіны Вялікамараўскай дзяржавы з баварскім святарствам ускладніліся. Улады Усходне-Франкскага каралеўства паспрабавалі падпарадкаваць Вялікую Маравію. Нямецкі клір у Вялікай Маравіі ва ўмовах канфлікту не мог быць надзейнай апорай вялікамараўскім уладарам. І тады нарадзілася ідэя стварэння самастойнай царквы ды звароту да Візантыі з просьбаю паставіць біскупа для мараванаў.

Разыходжанні паміж Заходняй (рымска-лацінскай) і Усходняй (візантыйска-грэцкай) традыцыямі тады яшчэ не прывялі да канчатковага падзелу (схізмы) цэркваў, які быў аформлены ўзаемнай анафемай (праклёнам і адлучэннем) у 1054 г. А ў IX ст. хрысціянская царква лічылася адзінай, з рознымі цэнтрамі ўлады і ўплыву — Рымам і Канстанцінопалем. Таму, звяртаючыся да Візантыі, вялікамараўскі князь запрашаў біскупа, якога ў кананічным сэнсе мусіла прызнаць і лацінскае духавенства.

## Для дзяржавы свая мова

У 861 і 862 г. вялікамараўскі князь Расціслаў скіраваў у Візантыю да імператара Міхаіла III сваіх паслоў. Князь прасіў даслаць настаўнікаў, святароў ці біскупа, якія б дапамаглі закласці ў ягонай дзяржаве аснову ўласнай царкоўнай арганізацыі. Асобна Расціслаў абумоўліваў тое, каб візантыйскія святары маглі прапаведаваць на славянскай мове. Гісторыкі мяркуюць, што мараўская эліта гэтак хацела атрымаць магчымасць непасрэднага азнаямлення з хрысціянскімі верай і нормамі, каб кантраляваць дзейнасць святарства. Апроч таго, выкладанне па-славянску спрыяла б хуткай падрыхтоўцы святароў з мясцовага насельніцтва, якія б больш паспяхова, чым замежныя місіянеры, маглі б служыць інтарэсам мараўскіх князёў і іх дружыны.

У мараўскую місію імператар прызначыў вядомых перакладчыкаў і кніжнікаў Кірыла і Мяфода.

Салунскія браты, прабыўшы ў Вялікай Маравіі трохі больш за тры гады, паспелі зрабіць шмат. На базе ранейшых напрацовак, уключыўшы мясцовыя моўныя элементы, яны стварылі стараславянскую мову ды пачалі перакладаць царкоўныя кнігі з грэцкай. Таксама яны займелі вучняў, якіх навучалі славянскаму пісьму і вядзенню літургіі па-славянску.

Гэта была моўная рэвалюцыя. Бо сярод тэолагаў Заходняй царквы існавала канцэпцыя, што да Бога можна звяртацца толькі на трох мовах, на якіх і быў зроблены надпіс на Хрыстовым Крыжы: яўрэйскай, грэцкай, лацінскай. Баварскія місіянеры на Маравах абмяжоўваліся перакладам на славянскую мову найбольш пашыраных малітваў ды адкідалі магчымасць выкарыстання мясцовай мовы для хрысціянскай асветы нароўні з лацінай і грэцкай. Кірыл і Мяфод адмаўлялі прынцыповую розніцу паміж «кананічнымі» мовамі і славянскай. Падмурак для пашырэння славянскай пісьменнасці і ўвогуле славяншчыны ў Еўропе быў створаны.

Пра з’яўленне ля межаў Беларусі яшчэ аднаго місіянера — Брунона з Кверфурта, «Тысячагоддзе» Літвы і драматычныя падзеі вакол Турава чытайце ў працягу «Гісторыі Беларусі».

# Пайшоў служыць, а стаў інвалідам

Аляксандра Грыгарчука камісавалі з войска праз дзевяць месяцаў службы.

Маці салдата спрабуе давесці, што ён страціў здароўе праз «дзедаўшчыну».

Аляксандр пайшоў у войска ў ліпені 2009 г. цалкам здаровым, а ўжо ў лютым 2010-га трапіў у псіхіятрычную бальніцу. Яшчэ праз два месяцы хлопца камісавалі. Ён атрымаў II групу інваліднасці па псіхіятрычным профілі. Маці салдата спрабуе давесці, што яе сын страціў здароўе праз «дзедаўшчыну».

Яна расказала газеце «Вечерний Гродно», што ў першыя ж месяцы службы Аляксандр пачаў змяняцца. Казаў пра нестатутныя адносіны, здзекі стараслужачых. Стаў замкнёным , часта скардзіўся на кепскае самаадчуванне. Маці звярнулася да камандзіра дывізіёна, у якім служыў хлопец. Яму далі трое сутак адпачынку, але родныя за гэты час нічога не даведаліся. Тое, што Саша захварэў, стала вядома толькі ў лютым. Пасля патрабаванняў маці сына накіравалі на абследаванне, якое і выявіла цяжкую хваробу.

Кіраўніцтва гродзенскай 62-й зенітнай ракетнай брыгады, дзе служыў Грыгарчук, адмаўляецца прымаць на сябе адказнасць за захворванне байца. Цвердзіць, што праверка фактаў «дзедаўшчыны» нічога не выявіла. Паводле заключэння ваенна-лекарскай камісіі, хвароба салдата не звязаная з праходжаннем службы. Паводле рашэння міжгарнізоннага раённага суда, Аляксандр не мае права на грашовую кампенсацыю і вайсковую пенсію, бо захварэў не ў часе выканання вайсковых абавязкаў.

Маці Аляксандра Вольга Васільеўна ўсё адно збіраецца даказаць у судзе, што яе сын страціў здароўе праз «дзедаўшчыну». Дапамагчы ёй могуць сведчанні саслужбоўца сына, які нібыта пагадзіўся даць іх.

**Сямён Печанко**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Армейскія нагрузкі вытрымлівае не кожны.**

# Дырэктар камп'ютарнай крамы падмануў універсітэт, банк і КДБ

Суд Першамайскага раёна Мінска асудзіў на сем гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці і пазбаўленнем права займацца пэўнай дзейнасцю былога кіраўніка ТАА «Відэадрук».

Ён прызнаны вінаватым у крадзяжы шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі грашовых сродкаў у асабліва буйным памеры (ч. 4 арт. 210 КК), махлярстве ў асабліва буйным памеры (арт. 209 КК) і злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі (ч. 3 арт. 424 КК).

Цягам трох гадоў асуджаны ўчыняў крадзяжы па прынцыпе фінансавай піраміды. Ён выконваў абавязанні па раней заключаных дамовах на пастаўку камп'ютарнай тэхнікі за кошт грашовых сродкаў, якія паступалі ў адрас ТАА па зноў заключаных дамовах. Частку сродкаў былы кіраўнік таварыства завалодаў з выкарыстаннем службовых паўнамоцтваў, пералічваючы грошы на рахункі падкантрольных яму ілжэпрадпрымальніцкіх структур.

Ведаючы пра вялікую крэдыторскую пазыку ТАА «Відэадрук», пра буйныя асабістыя дамоўныя абавязацельствы перад фізічнымі асобамі і банкамі, асуджаны загадзя не збіраўся разлічвацца, набываў па дамовах тэхніку і не плаціў за яе пастаўшчыкам, не пастаўляў тэхніку замоўнікам, а ўтарганыя грошы пераганяў у наяўныя праз фірмы-аднадзёнкі і выкарыстоўваў на свае мэты.

Такім чынам былы кіраўнік завалодаў грашовымі сродкамі Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта, Камітэта дзяржаўнай бяспекі, ТДА «Мультисофт», ПП «Саммит Технолоджиз», УП «Гандлёвы дом «Гарызонт»» на суму звыш 600 млн рублёў.

Акрамя таго, ён ашуканскім чынам выкраў сродкі, атрыманыя ў выглядзе крэдытаў у ЗАТ «БТА Банк», ААТ «Прыёрбанк», ААТ «Белінвестбанк», філіяле «Белгазпрамбанка».

**БелаПАН**

# Беларусы сталі піць больш

Рэалізацыя гарэлкі ў Беларусі ў студзені—лютым 2011 года вырасла на 2,6% у параўнанні са студзенем—лютым 2010 года. Ад кастрычніка 2009 да студзеня 2011 года адзначалася скарачэнне рэалізацыі гэтага алкагольнага напою.

Паводле звестак Белстата, доля гарэлкі ў агульным аб'ёме спажывання алкаголю склала 44,3% (у студзені—лютым 2010 года — 47,4%).

Доля рэалізацыі алкагольнай прадукцыі ў агульным аб'ёме рознічнага таваразвароту ў студзені—лютым 2011 года склала 10,8%. На спажывецкім рынку рэалізавана алкагольных напояў і піва на 902,8 млрд рублёў.

Прычым піва за першыя два месяцы гэтага года прададзена на чвэрць больш, чым за студзень—люты 2010 года. Яго доля ў агульным аб'ёме спажывання алкаголю склала 12,1%.

«Чарніла» па-ранейшаму складае каля 30% у аб'ёме продажу алкагольнай прадукцыі.

**Паводле БелаПАН**

# Прэмію «Дзеяслова» атрымаў аўтар эратычнага апавядання

Дэбютантам года стаў Франак Вячорка за «Лізу» — апавяданне, якое ён напісаў у арміі.

17 сакавіка адбылося ўручэння штогадовай літпрэміі «Залаты апостраф».

У намінацыі «Проза» перамог Вінцэсь Мудроў, у паэзіі — Вольга Гапеева. Сёлета было вырашана ў намінацыі «Дэбют» уручаць прэмію і аўтару лепшай паэтычнай нізкі, і аўтару найлепшай прозы. Адпаведна ўганараваны былі Настасся Кухарэнка і Франак Вячорка.

За высокія творчыя дасягненні прэмію атрымаў Анатоль Вярцінскі.

**Кастусь Матушыч**



# У Баранавічах будуць святкаваць Дзень вераб'я

Свята пройдзе 20 сакавіка.



Арганізатарам выступае грамадскае аб'яднанне «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ).

Змена стылю жыцця людзей вядзе да таго, што традыцыйныя месцы гнездавання віду знікаюць. Тэндэнцыя адзначаецца ва ўсёй Еўропе, прычым у асобных краінах, напрыклад, у Вялікабрытаніі, верабей уключаны ў спіс відаў, якія падлягаюць ахове.

У Беларусі святкаванне Дня вераб'я заклікана прыцягнуць увагу да захавання птушак як такіх.

У Баранавічах ужо ёсць помнік дамавому вераб'ю, які быў выбраны птушкай года ў Беларусі ў 2003 годзе.

Да Дня вераб'я прымеркавана адкрыццё фотавыставы ў Цэнтральнай бібліятэцы. Каля помніка будуць размешчаны папяровыя фігуркі птушак, спецыяльна зробленыя да свята.

Дырэктар АПБ спадзяецца, што верабей стане сімвалам Баранавічаў.

Усяго ў Беларусі налічваецца каля 2 млн дамавых і прыкладна 1 млн палявых вераб'ёў.

**БелаПАН**

## Здарэнні сцісла

• **Прадаваў кватэры, якіх не было.** Прычым доўгія гады. Старшыня ГА «Фонд сацыяльнай абароны «Время»» Андрэй Максіменка абвінавачваецца ў крадзяжы больш за 2,7 млрд рублёў дольшчыкаў ЖБК. Паводле высноваў следства, Максіменка прыцягваў грошы дольшчыкаў, не маючы намеру будаваць кватэры. Следствам таксама зафіксаваныя выпадкі, калі абвінавачаны адны і тыя ж кватэры прадаваў некалькім дольшчыкам.

• **На будаўніцтве метро загінуў рабочы.** Няшчасны выпадак адбыўся 16 сакавіка на будаўніцтве падземнага перагону паміж станцыямі «Пятроўшчына» і «Міхалова» на праспекце Дзяржынскага. 23-гадовы праходчык-машыніст быў смяротна траўмаваны падчас счэпкі пародапагрузачнай машыны з кантэйнерам для пароды.

• **Зброя з вайны ўсё не сканчаецца.** У Мінску, у ваенным гарадку Уручча, падчас земляных работ знайшлі зброю часоў Другой сусветнай — фаўстпатрон і 15 гранат. У гэты ж дзень у Віцебску былі знойдзеныя 93 авіябомбы часоў вайны. Боепрыпасы абясшкоджаныя.

• **Мядзведзі разагналі бізнэсланч пад Ашмянамі.** Два мядзведзі змусілі ўцякаць трох мінскіх бізнэсоўцаў. Тыя спыніліся за пару кіламетраў ад Ашмянаў перакусіць у адной з альтанак на ўзлеску. Не паспелі раскласці на стале ежу, як з лесу выйшлі два мядзведзі і накіраваліся да іх. Мінчукі рынулі да машыны. За рулём быў кіроўца, ён даў газу, ледзь пасажыры ўскочылі. Ад'язджаючы, бізнэсоўцы заўважылі, як мядзведзі лапамі паскідалі са стала хлеб, кілбасу, садавіну і selі абедаць. Леснікі кажуць, што мядзведзі на Гродзеншчыне з'явіліся некалькі гадоў таму. Некаторыя нават майструюць на зіму бярлог непадалёк ад вёсак.

• **Сонечны прамень ледзь не падпаліў кватэру ў Віцебску.** Паведамленне аб тым, што ў кватэры на дзясятым паверсе віцебскай навабудоўлі адбылося ўзгаранне, паступіла позна ўвечары. Пажарныя ўбачылі выгаралы ложак, моцна абкуродымленыя сцены ва ўсёй кватэры, праўда, адкрытага агню не было. На століку ля акна стаяла невялікае люстэрка, з аднаго боку выпуклае. Як выявілася, на тое, каб промень, трапіўшы ў яго, падпаліў плед, неабходна ўсяго пяць секунд. Агонь не разгарэўся толькі таму, што ў кватэры былі зачыненыя ўсе форткі і не было доступу кіслароду.

**СМ**

## КАНЦЭРТЫ

**Лявон Вольскі**

**28 і 29 сакавіка ў «Графіці»** — канцэрт Лявона Вольскага. Пачатак а 19-й.

**Творчы вечар Сяргея Пуксты**

**25 сакавіка ў «Графіці»** (зав. Калініна, 16) — творчы вечар Сяргея Пуксты. Пачатак а 19-й.

**Шалкевіч на Трактарным**

**2 красавіка ў ДК МТЗ** (вул. Даўгабродская, 24) — канцэрт Віктара Шалкевіча. Пачатак а 19-й.

**Князь Мышкін**

**5 красавіка а 19-й у малой зале КЗ «Мінск»** — псіхадэлічны мінскі гурт «Князь Мышкін». Запрошаныя і спецыяльныя псіхадэлічныя госці: Zartipo, «Нагуаль», Іван Кірчук, Віктар Жыбуль і Вера Бурлак і іншыя.

**Прылёт дыназаўраў: Deep Purple**

**27 сакавіка** — свята на вуліцы аматараў старога добрага хард-року. У мінскім Палацы спорту зайграе легендарны гурт Deep Purple. «Смок ін зэ ўотэр» пачнецца а 19-й.

**Нарвежскія металісты Enslaved**

**28 сакавіка ў «Рэактары»** (вул. Харужай, 29) а 19-й — канцэрт гурта Enslaved (Нарвегія). Enslaved — тройчы героі металісцкай працы. Яны атрымалі тры Grammy ў катэгорыі «метал».

**Джаз у Філармоніі: Phronesis**

**30 сакавіка ў Мінску ў вялікай зале Філармоніі** (пр. Незалежнасці, 50) выступіць трыа Phronesis, якое мае рэпутацыю найлепшага джазавага гурта ў Вялікабрытаніі. У 2010 годзе яны атрымалі самую прэстыжную музычную прэмію краіны MOBO Awards. Што такое брытанскі рок, мы ведаем — ёсць магчымасць паслухаць, што такое брытанскі джаз. Пачатак у 19.00.

## ВЫСТАВЫ



**Бег па лязу брытвы**

**У галерэі сучаснага мастацтва «Ў»** (пр.Незалежнасці, 37а) да 31 сакавіка працуе фотавыстава Мікалая Бітвінніка Blade Runners. Фотамастак здымаў вядомых людзей у працэсе галення або падстрыгання. Выстава зацікавіць аматараў мастацкага фота, а таксама фанатаў творчасці Міхалка, Цэслера, Айтплатава, Памідорава і іншых культурных віп-персонаў, знятых Батвіннікам.

**Патрыярх беларускай сатыры**

**У галерэі «Лабірынт» да 1 мая** працуе выстава «Патрыярх беларускай сатыры», прысвечаная 115-годдзю з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Кандрата Крапівы. На выставе можна пабачыць матэрыялы з архіва пісьменніка: рукапісы, лісты, фатаграфіі розных гадоў, дакументы, асабістыя рэчы, кнігі.

**Творы Ісачова**

**У вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва** (пр. Незалежнасці, 47) да 3 красавіка працуе выстава жывапісу і графікі Аляксандра Ісачова з прыватнай калекцыі.

**Масонская выстава ў Гомелі**

**У Гомельскім палацава-паркавым ансамблі** працуе выстава рарытэтаў Віцебскага абласнога краязнаўчага музея «Масонская калекцыя са збораў Вацлава Федаровіча». На выставе дэманструюцца масонскія знакі і сімвалы канца XVIII — пачатку XIX стагоддзя. Усяго прадстаўлена больш як 50 прадметаў. Гэта друкаваныя і рукапісныя дакументы, рэчавыя помнікі, якія знаёмяць з развіццём масонства: знакі адрознення рускіх і польскіх лож, агульнамасонскія знакі адрознення і знакі розных ступеняў і пасадаў, масонскія стужкі, запоны і кішэні-кашалі.

## ТЭАТРЫ

**23 сакавіка**

Оперы і балета — «Снягурка»
Беларускай драматургіі — «Сталіца Эраўнд»

**24 сакавіка**

Лялек — «Чаму старэюць людзі»
Беларускай драматургіі — «Нязваны госць»

**25 сакавіка**

Беларускай драматургіі — «Сонечка»
Лялек — «Драй швэстэрн» (для дарослых)
Оперы і балета — «Марная перасцярога»

**26 сакавіка**

Лялек — «Жахлівы спадар Ау»
Оперы і балета — «Мадам Батэрфляй»
Беларускай драматургіі — «Сёстры Псіхеі»

**27 сакавіка**

Лялек — «Чырвоны Каптурок»
Оперы і балета — «Тры парсючкі»
Оперы і балета — «Лебядзінае возера»
Купалаўскі — «Офіс»

**28 сакавіка**

Купалаўскі — «Сымон-музыка»
Оперы і балета — «Яўгеній Анегін»
Беларускай драматургіі — «Мужчыны на мяжы нервовага зрыву»
Купалаўскі — «Старамодная камедыя»
Новы драматычны — «Праўдзівая гісторыя пра Марыю і Пушка»
Новы драматычны тэатр — «Вельмі паважаны Тузік»

**29 сакавіка**

Лялек — «Сіняя птушка»
Новы драматычны тэатр — «Малітвы тых, хто не моліцца»
Новы драматычны тэатр — «Крыштальны туфлік»
Оперы і балета — «Шчаўкунок»
Беларускай драматургіі — «Інфляцыя пачуццяў»
Новы драматычны тэатр — «Урачыстасць»

**30 сакавіка**

Беларускай драматургіі — «Дамавічкі»
Лялек — «Марынка-крапіўніца»
Новы драматычны тэатр — «Друскіле»
Новы драматычны тэатр — «Мой першы Sony»
Купалаўскі — «Чорная панна Нясвіжа»
Оперы і балета — «Рыгалета»
Купалаўскі — «Беларусь у фантастычных апавяданнях»

**31 сакавіка**

Беларускай драматургіі — «Гісторыя двух сабак»
Лялек — «Чароўная лямпа Аладзіна»
Купалаўскі — «Пінская шляхта»
Оперы і балета — «Рамэа і Джульета»

**1 красавіка**

Юнага гледача — «Дзюймовачка»
Лялек — «Вясёлы цырк»
Беларускай драматургіі — «Адамавы жарты»

**2 красавіка**

Лялек — «Прыгоды Пін-Піна»
Купалаўскі — «Не мой»
Беларускай драматургіі — «Што баліць?»

**3 красавіка**

Юнага гледача — «Пані Завіруха»
Лялек — «Васіліса прыўкрасная»
Беларускай драматургіі — «Каласы пад сярпом тваім»




# Забароненыя карціны

23 сакавіка а 17-й на сядзібе БНФ (пр.Машэрава, 8) адкрыецца выстава «Рэпрэсаваныя творы». На ёй сябры суполкі «Пагоня» пакажуць два дзясяткі прац, якія цэнзары забаранялі выстаўляць цягам шаснаццаці гадоў. Сярод іх — і шэсць прац, знятых з сёлетняй выставы «Пагоні» ў Палацы мастацтваў.

## КІНО

### Змяняльнікі рэальнасці

**The Adjustment Bureau**
**ЗША, 2011, каляровы, 105 хв.**
**Рэжысёр: Джордж Нолфі**
**Ролі выконваюць: Мэт Дэйман, Эмілі Блант, Энтані Мэкі, Джон Слэтэры, Тэрэнс Стэмп**
**Жанр: Фантастычная меладрама паводле апавядання Філіпа Дзіка «Бюро карэкцыі»**
**Адзнака: 6 (з 10)**

Кангрэсмен Дэвід Норыс — перспектыўны малады палітык, які ўпэўнены, што кантралюе сваё жыццё. Аднойчы герой знаёміцца з пекнай дзяўчынай, што мяняе ягоныя планы. Але злавесныя персанажы ў аднолькавых капелюшах замінаюць героям сустрэцца. І ці людзі гэтыя істоты, увогуле?




Карціна Джорджа Нолфі — меладрама. А меладрама — жанр, абцяжараны лёсам. Інструментамі лёсу звычайна выступаюць карабельныя катастрофы, доўгія развітанні ці нягоднікі. У фільме Джорджа Нолфі — гэта анёлы-бюракраты, якія не жадаюць адступаць ад усталяваных планаў. Звычкамі яны нагадваюць іншапланетнікаў з «Цёмнага горада» ці каўбоісцкіх агентаў Смітаў на службе ў «Матрыцы».

Такім сур'ёзным ворагам здольны кінуць выклік толькі сапраўдны мужчына (Мэт Дэйман), які гатовы дзеля каханай дзяўчыны на ўсё: спазніцца на інтэрв'ю, пачапіць нямодны капялюш па самыя вушы, трыгады ездзіць у «ёйным» аўтобусе.

Забытае апавяданне Філіпа Дзіка часоў халоднай вайны на сённяшнім кінаэкране выглядае манерна-банальным — але не сумным. Лёгкае кіно.

**Андрэй Расінскі**

# «Саманд» — антынародны аўтамабіль

Сталічны таксіст расказвае пра якасць першага беларускага легкавіка.

Эпоха «Саманда» скончылася — калі яе можна назваць эпохай, з улікам таго, што нават тысячу першых беларускіх легкавікоў прадаць не ўдалося. «Саманд» распаўсюджвалі спосабам добраахвотна-прымусовым — сярод дзяржаўных установаў, якія адмовіцца не маглі. А нядаўна віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка шчыра прызнаўся, што далейшая вытворчасць аўтамабіляў не мае ніякага сэнсу: ніхто іх не купляе.

«Наша Ніва» знайшла ўладальніка «саманда», які падзяліўся ўражаннямі ад трох гадоў карыстання аўтамабілем, што так і не стаў «народным».

### Праз месяц — выбухнуў акумулятар

Знайсці прыватны «Саманд» удалося толькі ў адной са сталічных службаў таксі. За сваё жыццё таксіст Аляксандр Казачонак змяніў шмат аўтамабіляў — былі ў яго і «Додж», і «Пежо», некалькі «Мерсэдэсаў». Тры гады таму з'явіліся чуткі пра пастанову, паводле якой у якасці таксі нельга будзе выкарыстоўваць аўтамабілі, якім болей за дзесяць год. Тады спадар Аляксандр прадаў старое аўто і купіў толькі запушчаны ў вытворчасць «Саманд». А пастанову, дарэчы, так і не прынялі.

Якасць машыны аказалася, мякка кажучы, сумнеўнай — праз месяц у новым аўтамабілі выбухнуў акумулятар. Амаль адразу давялося змяніць рухавік на «пежоўскі» — той быў і лепшым па якасці, і куды больш надзейным. У найлепшых традыцыях савецкага аўтапрама, «Саманд» амаль адразу пачаў гніць — багажнік выглядае так, як быццам яму гадоў дзесяць як мінімум.

**Чаму ў «Самандзе» няма падушкі бяспекі?** Адказ вытворцы: «У «Саманда» трывалы корпус. Спадзяёмся, што ў выпадку ДТЗ з нашымі клієнтамі нічога не здарыцца».

### Іранцы сказалі: «Гэта найгоршая машына»

«Аднойчы я вёз іранцаў, — дзеліцца спадар Казачонак, — яны сказалі, што ў іх «Саманд» лічыцца найгоршым аўтамабілем з усіх. А тут уявіце: машына французская, зробленая ў Іране і сабраная ў Беларусі. Гэта мёртванароджаны аўтамабіль».

Дванаццаць з паловай тысяч даляраў, якія давялося заплаціць за «Саманд» з улікам усіх паломак, ужо ператварыліся ў дзвяцаць. «Халтура, — кажа таксіст. — Не можа ў новым аўтамабілі ўсё ламацца. Прынамсі, я так думаў. Размеркавальны вал сцёрся адразу. А паколькі гэты «Саманд» — адзін з першых, што былі выпушчаныя ў Беларусі, у ім нават падушкі бяспекі».

Калі пытанне пра падушку бяспекі задалі адміністрацыі сайта кампаніі «Юнісон», якая займаецца вытворчасцю «Саманда», прыйшоў такі адказ: «У «Саманда» вельмі трывалы корпус, спадзяёмся, што ў выпадку ДТЗ з нашымі клієнтамі нічога не здарыцца». Пасля, праўда, паабяцалі, што ў наступных мадэлях падушка бяспекі будзе.



Аляксандр дэманструе журналістам іржавыя парогі новага «Саманда».

### Купіў за 12, прадаць не магу за 5

Бартавы камп'ютар гаворыць па-расейску, але карыстаецца невядомымі аўтамабілістам тэрмінамі — прапануе «прістегнуть наручнік» (нездарма, відаць, машына актыўна выкарыстоўваецца ў МУС) ці праверыць «тормозное масло».

Ёсць у аўто і плюсы. Напрыклад, кажа Аляксандр, там вельмі добра працуюць печка і кандыцыянер. Іншыя шафёры заўважылі: калі паставіць «Саманд» каля выканкама, нават у недазволеным месцы, супрацоўнікі ДАІ нічога не зробяць — надта шмат афіцыйных асобаў вымушаны карыстацца «народным».

Калі паставіць «Саманд» ля выканкама, нават у недазволеным месцы, супрацоўнікі ДАІ нічога не зробяць.

Прадаць машыну не ўдаецца нават за пяць тысяч даляраў — ніводзін чалавек не адгукнуўся цягам месяца.

Тым часам урад, згарнуўшы вытворчасць «Самандаў», агучыў планы збіраць у Беларусі кітайскія легкавікі. Да перспектываў гэтага супрацоўніцтва спадар Аляксандр ставіцца з недаверам: «З мяне такіх машын хапіла да канца жыцця».

**Юрась Ускоў**



iPad 2 прадаецца хутчэй за першы варыянт.

**Што такое Айпад?**

Элітны планшэтны камп'ютар ад амерыканскай кампаніі Apple. Першую версію Айпада з гонарам паказваў у беларускім парламенце віцэ-прэм'ер Анатоль Тозік. На яго думку, такімі можна забяспечыць усіх айчынных школьнікаў.

# iPad 2 дабраліся да Мінска

Але каштуюць на $1000 даражэй, чым у ЗША.

За пяць дзён ад пачатку продажаў у ЗША планшэты iPad 2 ад Apple нарэшце прыехалі ў нашу краіну. І адразу ж сталі аб'ектам палявання фанатаў серыі. Прадпрымальныя перакупшчыкі хочуць наварыць па $1000 на кожным планшэце.

Нагадаем, амерыканскія цэны на iPad 2 без 3G выглядаюць наступным чынам: 16 GB — $499, 32 GB — $599, 64 GB — $699. Падтрымку 3G кіраўнік Apple Стыў Джобс ацаніў у 130 даляраў. Менавіта на такую суму адрозніваецца цана мадэляў з 3G: 16 GB — $629, 32 GB — $729, 64GB — $829.

Продажы пачаліся 11 сакавіка. У першы ж дзень на Манхэтэне ў Нью-Ёрку сабралася чарга з тысячы чалавек. Цікава, што самы першы апарат купіў... расіянін. Відаць, яму дапамог досвед бясконцага стаяння ў чэргах у часы СССР, захаваны генетычнай памяццю. Так ці інакш, але ў дзень прэм'еры было прададзена ажно 500 тысяч апаратаў.

Частка з іх свядома куплялася для перапродажу. Некаторыя айпады ўжо дасягнулі межаў Беларусі. Вядома ж, цэны моцна адрозніваюцца ад амерыканскіх. Першыя прапановы продажу «тут і зараз» — без чакання тавару — дасягалі $1500–1800. Такім чынам, чысты «навар» прадпрымальных беларусаў складаў ажно тысячу даляраў. За дзень-два цэны апусціліся ніжэй. Цяпер айпад у залежнасці ад камплектаванасці каштуе ў раёне тысячы даляраў — $900–1200.

«Мне сябар з Амерыкі прывёз на продаж тры апараты, — прызнаўся прадавец Андрэй, які размясціў аб'яву ў інтэрнэце. — За розніцу ў цане кожнага айпада можна злётаць у Нью-Ёрк. Праўда, пакуль прадаць планшэты не ўдалося. Людзі тэлефануюць, прыцэньваюцца, але не купляюць. Гэта не Масква, дзе айпады па $3 тысячы бізнэсоўцы раскупілі ў першы ж дзень у падарунак дзецям і палюбоўніцам».

У афіцыйным продажы iPad 2 у Беларусі з'явіцца няхутка.

**Яўген Васількоў**

## У віленскай кавярні з'явіўся кактэйль ШОС

«Гэта, каб падтрымаць беларусаў…» — кажа літоўскі рэстаратар Эдмундас Кончус.

Эдмундас Кончус – уладальнік рэстарана «Мексіка» ў Вільні. Пасля 19 снежня, калі ў Беларусі прайшлі прэзідэнцкія выбары, у Вільнюс вымушаныя былі бегчы шматлікія ўдзельнікі акцый пратэсту.

«Людзей з Беларусі з'явілася ў Вільні значна больш, чым раней, асабліва моладзі. Думаю, што людзі бягуць ад сітуацыі ў вашай краіне, – распавядае Эдмундас Кончус. – У нас не вельмі дарагая ўстанова і вельмі шмат наведнікаў – беларусы. Я ўвесь час чуў, як яны паўтараюць адну і тую ж абрэвіятуру — ШОС.

Тады ў віленскага рэстаратара ўзнікла думка падтрымаць новых сяброў з Беларусі і ён прыдумаў фірмовы кактэйль пад назвай ШОС.

«Мексіканская тэкіла, гранатавы сіроп, гранатавыя зярняткі і тры кроплі Tabasco. Выпіваць трэба залпам. І тады і горача, і смачна, і яшчэ хочацца. У вас таксама зараз у краіне «горача», праўда, зусім нясмачна і хочацца, каб было інакш. Цяпер кліентам-літоўцам тлумачым, адкуль такая назва новага фірмовага кактэйлю», — кажа рэстаратар.

Кактэйль ШОС карыстаецца вялікай папулярнасцю, і Кончус зараз задумваецца, а ці не перайменаваць яму рэстаран з «Мексікі» у ШОС?

«Хоць, вядома, выдатна было б адкрыць такі рэстаран у Мінску. Вось гэта была б «бомба». Наогул мне вельмі не падабаецца, што адбываецца ў вас у краіне. Вельмі б хацелася якнебудзь дапамагчы. Пакуль прыдумаў кактэйль. Хачу зрабіць больш. Я веру, што Беларусь абавязкова будзе свабоднай, як і Літва», – кажа Эдмундас Кончус.

**Паводле charter97.org**

## Сапраўдная беларуская кухня

### Зразы старабеларускія

500 г ялавічыны, 150 г сала, 10—12 сушаных белых грыбоў, 1 ст. лыжка масла, 3 цыбуліны, 2 ст. лыжкі сухароў, 1 яйка, 100 г тлушчу, соль, чорны і чырвоны молаты перац на смак.

Грыбы размачыць, вымыць, адварыць, нарэзаць саломкай, цыбулю парэзаць і абсмажыць на алеі. Змяшаць з грыбамі.

Мяса нарэзаць упоперак валокнаў, кожны кавалак адбіць, пасаліць, паперчыць. На сярэдзіну кожнага зраза пакласці сала, парэзанае брусочкамі, дадаць грыбны фарш, згарнуць кавалачкі мяса ў выглядзе каўбасак, замацаваць завостранымі драўлянымі палачкамі або звязаць ніткамі. Каўбаскі змачыць у яйку і абваляць у сухарах. Смажыць у вялікай колькасці тлушчу да ўтварэння румянай скарыначкі. Затым паставіць на 10—15 хвілін у гарачую духоўку.

**З кнігі Вінцэнты Завадскай «Літоўская кухарка», 1854. Падрыхтавала НБ.**

## Прыватныя абвесткі

**ВІТАННІ**

**Віншуем паэта, мастака і проста цудоўнага чалавека Міхала Анемпадыстава** з Днём народзінаў! Сябры.

**Віншуем Таццяну Трыфанаву і Іллю Заранка** з узяццем шлюбу. Каб у хаце заўсёды быў лад! Чакаем ад вас малых беларусікаў. Сябры.

**ВАНДРОЎКА**

**Шукаем ахвотных** далучыцца 3 красавіка да падарожжа «Косаўскі абшар» па маршруце: Міронім–Быцень–Івацэвічы–Косава–Мерачоўшчына–Бусяж–Белавічы–Альба. Т.: 262-73-43, (029) 111-73-32.

**ПРАЦА**

**Шукаю чалавека**, якому трэба памочнік у правядзенні хатніх рамонтаў (аддзелка, плітка, гіпсакардон). Т.: (029) 131-28-87.

**КНІГІ**

**Зборнікі вершаў** Н. Арсенневай, Л. Геніюш прадам. Т.: (029) 332-69-56. Святлана.

**Кнігу У. Арлова** «Імёны Свабоды» прадам. Т.: (029) 332-69-56. Святлана.

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!

## Кемікі



**Матэматычны фокус**

Задумайце лік (да 10), памножце яго на 4, падзяліце на задуманы лік, дабаўце 6, атрымаеце 10.

Як атрымаць лічбу 3 чатырма 2?

**Адказы глядзі на старонцы 16.**
**Сабрала Валянціна Карнялюк**

# Жаночы бокс

19 сакавіка падчас міжнародных спаборніцтваў па боксе ў Віцебску прайшоў жаночы паядынак. У фінале катэгорыі да 52 кілаграмаў на рынг выйшлі дзве беларускі — Святлана Пахомава (Віцебск) і Анастасія Конах (Наваполацк). Перамагла навапалачанка.

Беларуская федэрацыя боксу мае намер пазмагацца за алімпійскія пуцёўкі ў Лондан-2012.

Упершыню жаночыя баксёрскія баі з'явіліся на Алімпійскіх гульнях у 1904 годзе але толькі ў якасці дэманстратыўных. Пасля цягам амаль стагоддзя жаночы бокс заставаўся адзіным алімпійскім відам, дзе ў спаборніцтвах удзельнічалі толькі мужчыны. У Лондане-2012 ён будзе ўключаны ў праграму спаборніцтваў.

Самымі моцнымі жанчынамі-баксёрамі ў спартовым свеце лічацца прадстаўніцы Ірландыі, Індыі, Кітая і Расіі.

Медыкі ж, якія спецыялізуюцца на жаночым здароў'і, лічаць заняткі гэтым мужчынскім відам спорту такімі ж шкоднымі для жанчын, як, напрыклад, цяжкая атлетыка.

**Сяргей Гудзілін**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



**Эпатажны блогер і грамадскі актывіст Яўген Ліпковіч зладзіў у Мінску «Дзень абароны маладой беларускай маральнасці», у рамках якога спаліў кнігі кіраўніка лукашэнкаўскага саюза пісьменнікаў Мікалая Чаргінца. «Такія мерапрыемствы наогул павінныя стаць штодзённымі. Вось калі ўстаў раніцай, выявіў дзе-небудзь кнігі Чаргінца, Рубінава, тэлевізар з беларускім каналам... Не пабіў тэлевізар, не спаліў Чаргінца — дзень пражыты дарэмна, маральнасць пацярпела», — лічыць Ліпковіч.**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Памёр белы мядзведзь Кнут — самы вядомы жыхар берлінскага заапарку. Яго знайшлі ў басейне пасярод вальера. Абставіны і прычыны гібелі мядзведзя пакуль невядомыя. Кнуту было чатыры гады. Гэта быў адзіны белы мядзведзь, які нарадзіўся ў няволі. Кнут стаў зоркай заапарку: у сакавіку 2007 г., калі яго ўпершыню паказалі публіцы, заапарк за некалі дзён наведалі больш за 100 тысяч чалавек. У берлінскіх рэдакцыях СМІ працавалі цэлыя аддзелы, якія падрабязна асвятлялі працэс выхавання «зоркі».**



**19 сакавіка Месяц наблізіўся да Зямлі на рэкордна малую адлегласць: 356 500 км. Звычайна між ім і Зямлёй — 384 000 км. Гэта з'ява мае назву месяцавы перыгей. Рэдкасць у тым, што гэтым разам ён супаў з поўняй.**

## «НН» сто гадоў з вамі

Астрахань. Выйшаў першы нумар кіргізскай газеты на кіргізскай мове.

**«НН». № 12. 1911**

У вёсцы Ніжнія Жары Брагінскага раёна памёрла найстарэйшая жыхарка Беларусі і планеты Марыя Шарая, якой было 124 гады. Марыя Шарая пражыла ўтрох стагоддзях, а XX пражыла цалкам. Памёрла яна ціха, а хавалі яе ўсёй вёскай. Была на тым пахаванні і 104-гадовая аднавяскоўка спадарыні Марыі, якая памятае нябожчыцу яшчэ нявестай.

**«НН». № 11. 2001**

## Анекдоты

Пуцін паабяцаў Лукашэнку, што АЭС, збудаваная ў Беларусі па расійскай тэхналогіі, будзе лепшай за японскія. Расійскія «Лады» таксама будуць лепшыя за «Таёты», паабяцаў ён.

* * *

На сустрэчу з Пуціным Лукашэнка прыйшоў разам з Колем. І спытаўся, чаму Пуцін не ўзяў з сабой Дзіму.

* * *

Гэта не дэвальвацыя, проста кілаграм грэчкі будзе каштаваць даляр, як раней.

* * *

— Любая, хочаш, я прынясу табе вунь тую зорку?

— Не, любы, сёння ты будзеш начаваць дома!

* * *

Тыя, хто кажа, што ноччу есці нельга, хай паспрабуюць патлумачыць, навошта тады прыдуманае святло ў лядоўні.

* * *

На здачу жылога дома прыязджае камісія і бачыць, што па ўсім фасадзе намаляваныя велізарныя карычневыя колы. Няроўныя, з падцёкамі.

Старшыня камісіі кліча прараба:

— Гэта што яшчэ такое?

— Усё дакладна па праекце, — жвава адказвае прараб і паказвае альбом.

Старшыня яго разгортвае:

— Ідыёт! Гэта ж архітэктары каву на чарцяжы ставілі.

* * *

Калі ў ваенных вучылішчах вучаць каманднаму голасу, дык у медінстытутах — лячэбнаму почырку.

* * *

Настаўніца раздае сшыткі:

— Міколка, а тваё хатняе заданне сёння зробленае намнога лепей.

— Тата мне перастаў дапамагаць, Марыя Адольфаўна.

* * *

Дзяўчынка пытаецца ў мамы:

— А праўда, што ўсе людзі пайшлі ад малпаў?

— Праўда.

— І я?

— І ты.

— І ты?

— І я.

— А ў цябе фотак не засталося?

* * *

Аб'ява ў цырульні: «Лысыя — паразіты грамадства!»

**Адказы да старонкі 15:**

2-2:2+2=3
2+2-2:2=3
(2+2+2):2=3
2×2-2:2=3

**Наша Ніва**
незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**

© **НАША НІВА.** Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

**Наклад 7060.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 22.03.2011.
Замова № 1345.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12